# *Літаратурны экватар*

***Альманах***

***Заснаваны ў 2012 годзе***

***Выпуск 2***

Мінск
“Ковчег”
2013

УДК [821.161.3+821.161.1(476)]-822

Літаратурны клуб “Экватар”

У альманах “Літаратурны экватар” уключаны творы як прафесійных, так і пачынаючых аўтараў. Усе яны – удзельнікі літаратурнага клуба “Экватар”, які ўзначальвае беларускі паэт Вячаслаў Корбут.

Укладальнікі: *Вячаслаў Корбут, Інга Вінарская.* Шэф-рэдактар *Інга Вінарская.* Уступны артыкул *Вячаслава Корбута.*





***У добры шлях, наш альманах!***

Добры дзень, шаноўныя сябры і сяброўкі! Нагода віншаваць нас усіх з выхадам другога нумару альманаху “Літаратурны экватар” даволі важкая, бо грунтуецца яна на здольнасці нашых аўтараў збіраць у гэткія неадухоўленыя для літаратуры часы сваю грамаду, адолець сваю граду і даць магчымасць творчаму люду выходзіць да чытача са сваімі літаратурнымі опусамі, сярод якіх амаль усе жанры сучаснай літаратуры, пачынаючы ад малога верша, заканчваючы невялікай аповесцю. Ладна і тое, што ў гэтым, другім нумары альманаху дабавілася аўтараў, асноўная частка якіх уваходзіць у літаратурны клуб “Экватар”, што працягвае сваю працу на пляцоўцы Цэнтральнага Дома афіцэраў у Мінску. Самаму маладому удзельніку альманаху трошкі болей за дзесяць год, а найбольш сталым аўтарам – трохі больш за семдзесят…

Вось так, нібыта з дзвюх палюсоў жыцця – маладосці і мудрай сталасці, – прыводзяць да сваіх пенатаў заўсёды маладыя Німфы творчасці, нароўні з Музамі, што гэтак любяць людзей даравітых, свабодных духам і шчодрых на эмоцыі і творчыя планы. Гэтак было і мусіць быць пры любой сістэме каардынат грамадскага ладу, якую выбірае чалавецтва на тым ці іншым этапе свайго развіцця.

У траўні 2009 года наш літаратурны клуб “Экватар” распачаў сваю дзейнасць. Праз дзверы і вокны на свет белы прагла прабіцца на літаратурны Алімп з нашай паляны нямала аўтараў, маладых і не вельмі, вясёлых і не толькі. Але сёння бадзёрыць тое, што пэўная частка аўтараў, якая дагэтуль з намі разам працягвае сваю працу, верная традыцыі творчага сяброўства, асноўнымі прынцыпамі якога з’яўляецца добразычлівасць, спагада, ветлівасць, дабрыня, працалюбства і… адсутнасць зайздрасці. Апошняя рыса, нажаль, спецыфічна адлюстроўвае чалавечую душу і насамрэч не вельмі дапамагае чалавеку творчаму дасягаць найвышэйшых алімпійскіх прастораў у літаратуры. Сярод верных найстарэйшых “экватарцаў” прыгадаю Людмілу Сівалобаву, Апанаса Бацяноўскага, Наталку Анапрэенку, Вячаслава Макуця, Аляксея Палачанскага і іншых аўтараў. Да ўсяго можна з цікавасцю дадаць і той факт, што за апошні год да звычнага

складу нашых творцаў далучылася і брыгада новых аўтараў, па-свойму цікавых, думаючых і апантаных літаратурным словам. Пры гэтым многія з іх у творчасці дастаткова даўно, і першыя крокі ў літаратуры ўжо зрабілі, і не ўчора. Гэта Джэма Случак-Марцінкевіч, Святлана Чарная, Вячаслаў Данілаў, Аліна Савіцкая, Алег Чарнышоў, Яўген Вермут і іншыя творцы. Называць усіх зараз пайменна не стану, бо гэтая доля прыпадзе на іх пазней, калі пачну крыху знаёміць чытачоў з іх творамі, бо гэта ўжо традыцыя нашага альманаху. Прыязна і тое, шаноўныя сябры, што некаторыя аўтары, пачаўшы пісаць на рускай мове, пакрысе спрабуюць свае сілы, ствараючы новыя творы і на роднай мове, далучаючы сябе да працэса развіцця нацыянальнай культуры. Аўтары нашага альманаху расстаўлены ў алфавітным парадку, і іх творы напісаны як беларускай, так і на рускай мовах. Для шасці нашых аўтараў Расія з'яўляецца спадчынай, і таму можна казаць і аб нейкім міжнародным статусе альманаху, які, мажліва, у будучым пашырыць свае межы. А наогул, нашыя аўтары прадстаўляюць практычна ўсе рэгіёны Беларусі, і гэта дае падставу гаварыць пра геаграфічны статус альманаху, які павінен прытрымлівацца сваёй назвы і быць нейкім экватарыяльным цэнтрам літаратурнага жыцця нашага краю, мець задачы па ажыўленню творчай думкі на Беларусі, па развіцці талентаў, незалежна ад узросту і адукацыі, прытрымлівацца спадчынных духоўных традыцый нашага народа, які ва ўсе вякі густа і шчыра цаніў добрае мастацкае слова, бярог яго, бо яно давала сілу выжываць і перамагаць перад безліччу нягодаў і лёсавызначальных момантаў жыцця.

Кароткі аналіз новага выпуску альманаху распачну з тых аўтараў, чые імёны першымі стаяць у нізцы творцаў. Гэта Наталля і Якаў Анапрэнкі. Менавіта гэтыя шаноўныя аўтары, бацька і дачка, ужо не першы год з'яўляюцца ўдзельнікамі нашага праекту. Гэта людзі, шчыра закаханыя ў роднае слова, мастацкае слова. ***Наталля Анапрэнка*** прадстаўляе ў дадзеным выпуску сваю невялікую падборку вершаў і некалькіх празаічных замалёвак. Творчы настрой яе твораў рэфлексна адпавядае настрою лірычнай гераіні-гараджанкі, якая не можа змірыцца з шэрасцю быцця, аднатыпнасцю існавання чалавека ў вялікай жыццёвай прасторы. Пошук прыгожага хоць на ўскрайку сусвету ці "збліжэнне далёкасці ў фарбах змяркання…"





Пункцірамі ў яе творах праходзіць рамантычнае існаванне двух закаханых герояў у сваім уласным сусвеце і іх захапленне цудамі жыцця. Але і гэтае існаванне напоўнена сваімі гукамі, фарбамі і марамі, рознымі па настрою, але напоўненымі святлом і рамантыкай.

***Якаў Анапрэнка*** ў нашым гурце аўтараў выступае як пранізлівы краязнавец і гісторык жыцця беларусаў на памежжы і пачатку мінулых стагоддзяў. Якаў Рыгоравіч прадстаўляе свае карацелькі-аповеды "Каляды", "Дзед слухае радыё", "Кок-Сагыз". Гэтыя творы цікавыя не толькі той інфармацыяй, што аднаўляе ў памяці старэйшага пакалення нашых суродзічаў аўтар, але яшчэ і даюць магчымасць убачыць і пачуць гоман людзей мінулага, іх звычкі, пабачыць іх любімыя абрады. Аўтар паказвае элементы паўсядзённай арганізацыі жыццёвага ладу людзей Палесся, неўзабаве асоб статных і яшчэ якіх асоб – дужых, кемлівых, эмацыянальна насычаных. Неўзабаве аўтар шмат гадоў займаецца этнаграфіяй, фальклорам, ладзіць добра з гісторыяй роднай Брагіншчыны і блізкай сэрцу Лоеўчшыны.

Наступная наша аўтарка ***Эма Анішчава*** выступае ўпершыню на сторонках альманаху, і мы маем мажлівасць пазнаёміцца з паэтычнай спадчынай спадарыні Эмы на рускай мове. Эма Аляксандраўна нарадзілася на Тамбоўшчыне, у знакавай рускай глыбінцы, але на Беларусі адчувае сябе часткай нашага краю, любіць паэзію, беларускія краявіды, з павагай ставіцца да мясцовай культуры. Яна няўрымслівы і кемлівы чалавек, неабыякавы да чалавечага болю, доктар па адукацыі і прызванню. Яна і ў вершых па-свойму чалавек з непрымірымай пазіцыяй да несправядлівасці, чалавечай бездухоўнасці, філосаф і рамантык па натуры. Вершы "Грустинка", "Раздумья", "В золотистое монисто…" і іншыя па-свойму раскрываюць творчы погляд аўтара на свет, шчыра, адкрыта і з глыбокай унутранай дабрынёй і любоўю.

Спявачку, музыку і паэтэсу ***Таццяну Беланогую*** прадстаўляць доўга не трэба. Яе выразныя песні, глыбокія і лірычныя, ведаюць і любяць у шматлікіх мясцінах Беларусі. Яе выхады на сцэну заўсёды з асаблівым чаканнем успрымаюць слухачы, а мяккі і лірычны яе голас надоўга пасля застаецца са слухачамі недзе ў саміх глыбінях іх душ. Таццяна прадстаўляе на старонках альманаху сваю нізку вершаў, большая частка з якіх – гэта песні, і, безумоўна, па-свойму

адкрываюць яны перад намі нябачны і рознааблічны свет аўтаркі, свет, дзе жыццё чалавека – гэта не прагулка пад месяцам, а часцяком барацьба, змаганне з цёмнымі сіламі, цемрай у нас саміх, як у гэтых радках: "Божа, барані нас ад саміх сябе – дурных…" Вершы "Там, за акіянам", "Анёлы", "Каменны горад" і іншыя шмат пра што распавядуць чытачу, асабліва думаючаму і шукаючаму існасць нашага быцця.

Наступны наш аўтар ***Валерый Бястолкаў*** належыць да генерацыі паэтаў, што бачаць навакольны свет – і паэтычны, і метафізічны – з вышыні ўласнай філасофіі добра складзеных прынцыпаў і ведаў. Інжэнер-рабататэхнік па адукацыі і спецыяліст у фінансавай сферы, Валерый у сваіх вершах кранаецца шматлікіх тэм грамадскага жыцця, не баіцца аналізаваць наступствы існавання чалавека на планеце, і сам выразна імкнецца разабрацца ў чалавечай прыродзе ўжо з пункту погляда лірыка, паэта-грамадзяніна, каб знайсці тыя файлы, якія адказваюць за ўчынкі чалавека, за яго паводзіны, і самае галоўнае – знайсці гэтыя файлы ў самім сабе. Лірычны герой Бястолкава – своеасаблівы чалавек, які быццам існуе ў сваей прасторы, але тым часам мае свой погляд на ўсе выклікі часу і паўсядзённага жыцця. Герой Валерыя – асоба адзінотная, шукаючая і пытлівая, цікаўная і кемлівая, тым часам і барацьбіт за светлае і разумнае ў чалавеку. Вершы "Душа и разум", "И выпить позовут, и пить не тянет...", "Чёрная осень", "Вознесся пик" і іншыя трэба чытаць удумліва, там шмат разваг і аналітыкі.

***Апанаса Бацяноўскага*** як аўтара і музыку няблагa ведаюць ў творчым асяроддзі нашай сталіцы. Як паэт Апанас выступае на старонках альманаху з першых яго выпускаў. Ён актыўны аўтар і добры выступоўца, чалавек, неабыякавы да Слова, які грунтоўна ставіцца да кожнага радку і з'яўляецца верным прыхільнікам Срэбранага веку рускай паэзіі. Назвы ягоных вершаў ужо самі гавораць пра арыстакратызм ягоных твораў, хутчэй арыстакратызм духу, які хоча данесці да сэрцаў у наш разбэшчаны час аўтар. І гэта творы "Рыцарь духа", "По прочтении Ремарка", "Поэт", "Осенняя соната", "Святые" і іншыя. Вершы даюць магчымасць адчуць філасофскі густ паэта, убачыць ягоную вернасць традыцыям класічная паэзіі, якая бярэ пачатак ад часоў Гамера. Асабняком стаіць верш "Писатели", дзе аўтар





імкнецца прааналізаваць месца сучаснага аўтара там, дзе "мир дышит песенкой банальною…" І гэтая роля абсалютна нялёгкая, таму і "стихи опять не пахнут розами…". Нехта скажа, што гэта толькі словы, але сапраўдныя сучасныя паэты, думаю, адчуваюць гэтак жа востра.

Сярод тых, хто думае і піша на вастрыі слова ярка і з гумарам лёгка, наш добры аўтар ***Яўген Вермут.*** Як зазначае сам Яўген, ён актыўны ўдзельнік інтэрнет-супольнасці, тамака часцяком "вісяць" ягоныя вершы. Гэты аўтар любіць творчыя спрэчкі, свободна кранаецца вострых тэм грамадскага жыцця, мае свой погляд на кожную тэму і можа яе раскрыць з уласцівым яму імпэтам і сарказмам. Ён добра валодае тэхнікай верша, у яго творах нямала вобразаў, метафар, паэзія насычана рытмам, так званай "вермутаўскай" дынамікай, хуткасцю думкі і ўменнем раскрыць тэму з таго боку, які ўласцівы толькі гэтаму аўтару. Часам здаецца, што Вермут не чапляе тэмы верша, а яна сама чапляецца паступова за твор, быццам прыходзіць напрыканцы, як жанчына, што забегла мімаходзь у кавярню выпіць кубак кавы, а з'ела добрую талерку дранікаў. Гэта ўласцівасць творчай натуры Яўгена Вермута. Такія вершы, як "Трамвайная лирика", "Одиночество", "Старею, что ли?", "Я повешу на крючок душу…", "Хлеб детства", "Наивные мысли старого двора…" і іншыя, дастаткова напоўнены сімвалізмам, іроніяй, часам і прыхаваным трагізмам. Але за ўсімі гэтымі радкамі хаваецца сціплая вера ў нябачнае святло таго жыцця, што было і што можа яшчэ вернецца.

Паэтэсу, перакладчыцу і шэф-рэдактара нашага альманаху ***Інгу Вінарскую*** ведаюць усе сябры "Экватара", многія паважаныя аўтары і чытачы нашай краіны і за яе межамі. Інга правяла грунтоўную работу па рэдагаванню твораў нашых сяброў-альманахаўцаў, зрабіла аналіз іх прозы і паэзіі, выбрала найбольш цікавыя творы і давяла іх да неабходнага ўзроўню. Сёння выданні, падобныя нашаму, не вызначаюцца глыбокім падборам аўтараў, хутчэй наадварот: чым болей, тым лепей, а на якасць пасля паглядзім. Мы ад гэтай дарогі адыйшлі, і таму прафесійнасць падачы матэрыялу паставілі на першае месца. Сама Інга прадстаўляе ў альманаху сваю нізку вершаў, частка з якіх ужо друкавалася у іншых выданнях і кнігах. Творы Інгі прасякнуты глыбокім лірызмам, неардынарнай харызмай, а яе

лірычная гераіня валодае моцным характарам, у яе багаты ўнутраны свет, адначасова з чуллівым стаўленнем да ўсяго прыгожага і светлага. Нездарма славутая расійская паэтэса Рыма Казакова, легенда рускай паэзіі, называла Інгу Вінарскую “светлой и прекрасной”, як і яе творчасць. Па-сучаснаму шчыра, выразна і пранікнёна сёння і заўтра будуць гучаць вершы гэтай аўтаркі, сярод якіх “Не мы распределяем роли”, “Возможно, ты придумала всё это…”, “Вновь размышляла о любви…”, “Фарфоровая девочка-судьба…” і многія іншыя творы.

Так склалася лёсам, што з ***Валянцінам Антонавічам Врублеўскім***, педагогам, краязнаўцам, гісторыкам, пісьменнікам з Івейшчыны, лёс звязаў цеснымі творчымі ланцугамі. Мне не аднойчы пашчасціла папрацаваць над тэкстамі аўтара, і заўсёды я назіраў вялікую пільнасць да фактаў, вострых тэм і лёсаў людзей, што цікавілі і цікавяць гэтага чалавека. Ён, як сапраўдны патрыёт зямлі беларускай, шмат увагі надае ў сваіх доследах знакавым фігурам гісторыі нашага народа. Вось і на старонках альманаху выходзяць два артыкулы, якія быццам з двух палюсоў рэчаіснасці распавядаюць пра багата адараваных небам людзей, чые лёсы такія вялікія і далёкія, яркія і незабыўныя. Гаворка пойдзе пра трагічнае каханне караля Польчшы Жыгімонта II і Барбары Радзівіл (нарыс “Каханне еўрапейскага кшталту, ці Барбара і кароль”), і рэвалюцыйны лёс прадвесніка беларускай незалежнасці Кастуся Каліноўскага (артыкул “Вялікі змагар за незалежнасць Беларусі”). Абодва нарысы напісаны ёмка, грунтоўна, аналітычна даступна і чытабельна, заслугоўваюць права быць заўважанымі і дазваляюць шырэй паглядзець на цікавыя старонкі нашай гісторыі.

У стылі гістарычна-белетрыстычнай аповесці з элементамі містыкі прадстаўляе свой твор “Чортаў падарунак” пісьменнік ***Ігар Грыцкоў***. Ігар Міхайлавіч з цікавасцю ставіцца да гісторыі роднай Гомельшчыны, яму заўсёды ёсць пра што распавесці, выкарыстоўваючы аснову жыцця сваіх землякоў, якія стагоддзямі збіралі багаты фальклорны матэрыял, дзе многа паданняў, казак і баек. Хоць аповесць “Чортаў падарунак” даволі змрочная і напісана ў напружаным стылі, яна быццам дае нам магчымасць зазірнуць за фіранку мінулага, дзе мажліва браў свае сюжэты і знакаміты Мікалай Гогаль, і іншыя славутыя, і не зусім, аўтары. Цікава і тое, што матэрыял, які выкарыстаў Ігар Грыцкоў, насамрэч меў недзе і рэальную аснову, таму ён удвая цікавы патэнцыяльным чытачам, бо падзеі адбываюцца многія дзесяцігоддзі таму назад, у малазнаёмыя нам часы. Ігар Грыцкоў любіць і можа паспяхова працаваць над сюжэтамі і малой, і вялікай прозы, ягоныя героі цікавяць чытачоў, надоўга застаюцца ў памяці.





Свае паэтычныя творы прадстаўляе на сторонках альманаху і паэт ***Вячаслаў Данілаў.*** Ён прапануе нізку вершаў самага рознага зместу і тэматыкі. Паэзія Вячаслава шмат у чым аўтабіяграфічна, бо, па волі лёсу, паэт вымушаны трохі па-іншаму глядзець на навакольны сусвет, а таксама больш востра ставіцца да будзённасці нашага быту і цывілізацыйных праблем наогул. Лірычны герой Данілава мае свой досвед у жыцці, па-свойму глядзіць на існаванне чалавека на планеце, ён радуецца прыродзе, промням сонца, але ў той жа час адчувае трагічнасць быцця чалавека на гэтай зямлі, млоснасць яго існавання і хуткаплыннасць усяго жывога. Асаблівую ўвагу надае аўтар сілам прыроды, быццам там чэрпаюцца сілы для жыцця самога чалавека, які з прыродай нароўні – блізкі і амаль родны. Цікавымі па-свойму для прачытання стануць многія вершы Данілава, сярод якіх “Я совершаю от уныния побег”, “День сгорел, а мы с тобой молчали”, “Отражается солнце в бутылке пивной”, “В объятьях клёна покраснела вишня” и другие.

З бардам, паэтам, тэатральным дзеячом з Ваўкавыска ***Вячаславам Макуцем*** нас здаўна пазнаёміў лёс. Сёння на Гродзеншчыне, і ўвогуле, на Беларусі і за яе межамі многія ведаюць цудоўныя пастаноўкі ваўкавыскіх тэатралаў-аматараў, якімі кіруе не адно дзесяцігоддзе Вячаслаў Мікалаевіч. Няўрымслівы і па-творчаму галодны да ўсяго смачнага і цікавага, ён і ў літаратуры часам знаходзіць сабе прастору для спасціжэння свету. Асабліва палюбіліся аўтару акравершы, і ў гэтым жанры яму часам удаецца быць арыгінальным. Так мы друкуем эмацыянальна насычаныя акравершы “Беларуская мова мая”, “Добрага ранку, краіна!”, “Нарачанскі акраверш”, а таксама верш “Роднай мове” і іншыя. Аўтар паднімае важкія для грамадскасці пытанні існавання ў камунікацыйнай прасторы роднай беларускай мовы. Як чалавеку драматургічнага складу розуму, Вячаславу Макуцю, а таксама многім пісьменнікам балюча і крыўдна за той

несправядлівы статус, які сення мае родная мова на тэлеэкране і радыёстанцыях, як яна знаходзіць сваё месца ў грамадстве, як да яе ставіцца ўжо падрастаючае пакаленне. У чалавека адно сэрца, і мова ў яго родная можа быць толькі адна. І часам так крыўдна чуць, як дзеці беларускія, называючы мову "белішам", адчуваюць ужо яе як замежную. Ці не бацькі і грамадства вінаватыя ў гэтым? А гэта дарога ў нікуды, у духоўнае забвенне.

Наступны наш аўтар ***Юрый Мельнікаў*** даўно ўжо для сябе вызначыў моўную прастору існавання як творцы. Юрый выступае перад чытачамі як паэт і як пісьменнік, ён клапатлівы заўзятар беларускасці, добра ведае гісторыю, лёгка спраўляецца з героямі і ў сваіх празаічных творах. На старонках альманаху ён выступае з апавяданнямі "Калекцыя прызнанняў", "Таямніцы пачуццяў" і эсэ "Касьба". Героі Мельнікава – няпростыя людзі, бо яны жывуць па сваіх законах ветлівасці, добразычлівасці, маралі. І хоць у творах няшмат дзеяў, але адчуваецца глыбокі філасофскі сэнс існавання, якому падпарадкуецца ўнутраны свет кожнага героя аўтара. А ў эсэ "Касьба" пісьменнік спявае ледзь не оду вялікай спадручніцы селяніна – касе. Зараз многае сыходзіць у нябыт, але гэта пакуль у чалавецтва ёсць нафта, газ ці ўран. Мажліва, нехта ў будучым, прачытаўшы гэтае эсе, каб пракарміць кароўку і сваю сям'ю, калі абяднеюць нетры зямлі, скажа Юрыю Мельнікаву "дзякуй".

Са сваімі празаічнымі творамі выходзіць да чытача паэтка і празаік ***Людміла Міхейкіна***. Яе творчая манера як у паэзіі, так і ў прозе за апошнія гады займела новыя рысы, стала болей удумлівай, прадугледжваючы розныя сюжэтныя хады з элементамі большай напружанасці. Так для нашых чытачоў Людміла падрыхтавала апавяданні "Забытые удочки" и "Песня". Першае апавяданне нагадае амаратам рыбнай лоўлі некаторыя для іх знаёмыя сцэны з уласнага жыцця і з жыцця іх сваякоў, асабліва жонак. Другое апавяданне "Песня" хоць і караценькае, але паказвае для нас вартасць сапраўднай творчасці. Так, моцна можа крануць чалавечае сэрца пранікнёнае выкананне песні ваеннага часу, песні кахаючага сэрца...

Быццам працягваючы ваенную тэму, гаротную, важкую, выступае са сваім аповедам ***Галіна Мішнёва***. Галіна Фёдараўна здаўна сябруе з літаратурай, і для яе мажлівасць быць пачутай і прачытанай





мае вялікі сэнс. Яна з пакалення дзяцей вайны і востра адчувае чалавечыя характары, ведае кошт хлеба і працы, чалавечай дабрыні і зла. У аўтаркі нямала добрых і шчырых вершаў на розныя тэмы, але на сторонках альманаху друкуецца ўрывак з дакументальнай аповесці "Подвиг матери в годы войны". Гэта аўтабіяграфічны твор, і ён прысвечаны маці аўтаркі, і ад таго набывае яшчэ і сакральны сэнс. Пісьменніца вяртае нас у тую пару, калі жыццё чалавечае вакол віселa на танклявай нітачцы, і шмат сённяшніх людзей, што жывуць на Беларусі, у Расіі, ва Украіне, краінах Прыбалтыкі, суседніх славянскіх краінах жывыя, дзякуючы подзвігу сваіх матуль. Якім коштам удавалася захаваць ім жыцце сваіх дзяцей, нам невядома, як і няма аднаго ўніверсальнага сюжэту, але ёсць аповед Галіны Мішнёвай. І, прачытаўшы яго, хочацца неймаверна змагацца за мір, які каштуе нашмат даражэй усіх багацццяў свету.

У паэтэсы ***Таццяны Нясіфаравай*** тонкі паэтычны слых, бравы баявы рытм, смелая рыфма і яшчэ нейкая ўнутраная сіла слова. Хоць аўтарка і не мае высокіх дасягненняў у літаратуры, не друкавала свае творы і не выдавала кніг, але адчуваецца яе прыродная цяга да слова і мажлівасць утаймаваць слова ў добрую паэтычную скрыню. Гэта даецца нямногім і, бадай, не так часта, як хочацца. І яшчэ, Таццяна Нясіфарава – вельмі смелы аўтар, яна працуе са словам напрастак, рэзка, цераз слоўныя церніі ідзе да ісціны радка, да раскрыцця тэмы і яе абагаўлення страфой. Прырода надзяліла яе талентам лірычнай паэтэсы, таму падцверджаннем шмат прызнанняў лірычнай гераіні. Вось сімвалічны верш "Как нищая с протянутой рукой". Ён быццам праграмны, нават гучыць, бы споведзь, як і такія вершы, як "Мне говорят, что мой удел повыше" ці "Жизнь моя – мое сопротивленье" і іншыя. Яны ўсе прапучшаны быццам праз сэрца, праз нейкі ўнутраны боль, пакуты, духоўную барацьбу і ад таго набываюць свой найвышэйшы кошт. Так што дэбют Таццяны Нясіфаравай у нашым альманаху лічу даволі удалым.

Асабістая павага аддаецца і яшчэ аднаму нашаму аўтару і куратару клуба ад імя кіраўніцтва Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, загадчыку бібліятэкі Цэнтральнага Дома афіцэраў ***Віктару Паўлаву***. Гэта сапраўдны сябар кнігі і пісьменнікаў, ветэранаў, людзей-абаронцаў Айчыны, сапраўдны афіцэр і добры чалавек, што

шануе кнігу і добрае слова. Сам Віктар Аляксандравіч таксама крыху захапляецца літаратурным словам, піша нарысы пра ваенных будаўнікоў, гісторыі пра вайскоўцаў. У нашым нумары ён прадстаўляе свой кароткі аповед “Пилот “Большого Дугласа”, у якім ідзе гаворка пра аднаго са славутых лётчыкаў часоў Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Фёдаравіча Паўлава. Пра ўвесь ваенны шлях гэтага гераічнага чалавека можна было б напісаць кнігу, але пра свайго роднага дзядзьку Віктар Паўлаў узгадаў праз адзін подзвіг, высакародны і даволі рызыкоўны, калі на кану стаяла жыццё 32-х амерыканскіх лётчыкаў. Герой аповеда зрабіў немачгымае магчымым, паказаўшы сілу духа сапраўднага савецкага лётчыка-аса. Гэта быў не адзіны падобны подзвіг героя, былі і другія, што сталі ўжо часткай вялікай супольнай барацьбы народаў супраць фашызму, часткай гераічнай гісторыі часоў Другой сусветнай вайны.

У гэтым нымары альманаху наш новы аўтар ***Раіса Паўлючук*** дэбютуе са сваімі вершамі на самыя розныя тэмы. Вядома, што Раіса робіць першыя крокі на ніве прафесійнай літаратуры і яе творчы багаж патрабуе пільнай увагі і працы. Але імкненне творцы да літаратурнага развіцця мае свае вынікі, і сёння мы можам далучыцца да прачытання найбольш цікавых твораў, што выйшлі з-пад пяра аўтаркі. Лірычная гераіня Паўлючук – гэта пытлівая асоба, цікаўная жанчына, пранікнёная і светлая, якая імкнецца дабіцца сусветнай гармоніі ў самой сабе, адчуць прыгажосць навакольнага свету і зразумець, хто ты і з кім ты шчаслівы ці не, каго паважаеш і пра каго забываеш хутчэй, чым хацелася б. Лірычная гераіня Паўлючук сціплая і шчырая, сумная і вясёлая, рамантычная і загадкавая. Ей цепла ў марах, і яшчэ цяплей, калі мара здзяйсняецца. Яна быццам такая, як многія іншыя, але не расчараваная ў жыцці, як многія іншыя, таму мае заўседы шанец быць шчаслівай. Пра няўрымслівы ўнутарны свет гераіні распавядаюць такія вершы, як “Тебе, любимый, посвящаю”, “Вместе мы”, “В подражание Шекспиру”, “Обращение к женщине” і іншыя творы.

Маладая творчая зорка нашага аўтара, паэта і празаіка ***Аляксея Палачанскага*** ўзышла не сёння і згасне не заўтра. Яна мае сваё сакральнае святло, і яе сілу мы яшчэ адчуем, як з’явяцца новыя і буйнейшыя творы гэтага аўтара. А сёння на старонках альманаху





Аляксей прэзентуе сваю невялікую аповесць “Далекія агні”, героі якой – людзі звычайныя і незвычайныя, простыя па паходжанні і няпростоыя па існасці, як і ўсё, што сёння піша гэты багата адораны малады чалавек. Твор у нейкай ступені метафізічны, разбіты на некалькі малых частак, але героі ў ім пададзены як цэласныя фігуры, і, нягледзячы на ўсю складанасць вобразаў, яны адначасова і зразумелыя. Але ў нейкі момант яны становяцца задуменныя, пачцівыя да існасці і… няпростыя. Аляксей па натуры і сам няпросты аўтар, які любіць ставіць перад чытачом амаль невырашальныя задачы, каб пасля чытач, заблытаны дарэшты сюжэтам пачаў думаць… і вось раптам яму станавіцца цікава. У гэтым і сіла сапраўднай прозы, якую нялёгка і пісаць, і чытаць. Але пасля асалода якая! Ды вось жа калі твая зорка яркая, то і словы лёгка кладуцца ў радок навідавоку.

Наступны наш аўтар ***Лілія Перанесенка*** мае да слова асаблівую цягу і ў нашым альманаху адбываецца яе дэбют. Лілія Аляксееўна піша і вершы, і прозу, развівае ў сваіх творах розныя тэмы, смела бярэцца за вобразы, якія яна адчувае па-свойму тонка і свабодна. Пісьменніца даволі смела выступае на старонках альманаха са сваімі аповедамі “Душевная боль и её последствия”, “Завершение рабочего дня природы”, “Исповедь”, “Голубые волшебницы неба”. Што ж аб’ядноўвае гэтыя творы? Безумоўна, бурная фантазія аўтаркі, імкненне звязаць існаванне нашага быцця і іншасвету, дадаць штосьці чароўнае ў быційнасць зямную, дадаць фарбаў яркіх і цёплых на фоне нейкай застылай будзённасці нашага шэрага быцця. Гэта амаль фантастыка: і рэальнасць, і рамантызм разам разгуляліся на прасторах усясвету, дзе няма межаў і ўсё падпарадкавана законам вышэйшым, чым і кіруюцца людзі, таму і творы набываюць крыху алегарычны сэнс. Фактычна Лілія Перанесенка стварае новы погляд на знаёмыя рэчы, дадае асаблівую светлую свежасць у знаемыя нам рэчы – па-пісьменніцку шчыра і ўпэўнена.

Яшчэ адзін дэбютант нашага альманаху, ***Ігар Піскун*** з Петрыкава, у літаратуры таксама робіць першыя прафесійныя крокі, збіраючы свежы ўраджай сваіх вершаў з разумення самога жыцця, якое, па словах аўтара, і ёсць лепшая школа. Ігар, як і патрабуе прызванне паэта, вельмі неабыякавы да несправядлівасці, людской пошласці, бруду і цынізму сучаснай цывілізацыі. Лірычны герой Піскуна ведае

сабе кошт, ён не разменьваецца на дробязі, а бярэ добраю хваткай праблему і кладзе яе на касцёр творчага прысуду. Там пачынаюць паляць дровы-словы, палітыя маслам эмоцый і змагання за справядлівасць з верою ў перамогу добрых сіл. Таму сведчаннем вершы "Мысли вслух", "Верная дорога", "Прозрение" і іншыя творы. Шчыры гімн роднай зямлі можна прачытаць у радках верша "Полесский рай", які прасякнуты моцнай цягай да вернасці і жаданнем шчасця і росквіту Палескай зямлі. Бо гэтая зямля для кожнага беларуса з'яўляецца загадкавай, непаўторнай і найпрыгажэйшай, як сапраўдны зямны рай.

Прыемна адзначыць і той факт, што ў нашым альманаху ёсць месца зусім юным аўтарам. Гэта адзінаццацігадовая ***Аляксандра Піскун*** з Петрыкава, дачка нашага папярэдняга аўтара. Магчыма, гэта і сямейня цяга да літаратурнага слова, і толькі час пакажа, наколькі гэта цяга мае глыбокія карані. Тым не менш, Аляксандра на дзіва спраўна спрабуе свае сілы ў паэзіі, і хоць не ўсё яшчэ ў яе ладзіцца, як у сапраўдных аўтараў, але ўжо ёсць у яе строфах свой задор, эмоцыі і першыя ўласныя вобразы. Яны сведчаць пра настрой юнага аўтара, разам са светлымі дзіцячымі марамі вершы атрымліваюцца бойкімі, недзе наіўнымі і бесклапотнымі, як і павінна ў аснове быць у зусім юнага аўтара. Асабліва гэта адчуваецца ў вершах "Зима", "Природа летом", "Осень". Пажадаем Аляксандры Піскун новых творчых поспехаў і будзем чакаць ад яе новых твораў не толькі ў паэтычнай форме, але і ў прозе, дзе з яе фантазіяй могуць артымацца добрыя апавяданні як на рускай, так і на роднай мове.

***Аліна Савіцкая*** шлях да "Літаратурнага экватара" знайшла выпадкова, як і многія яе калегі, але за працяглы год ужо стала сапраўдным сябрам нашай суполкі, творча актыўным, пытлівым, думаючым. Аліна ў творчасці не навічок і мае пэўны вопыт паэтычнай творчасці, а таксама з'яўляецца актыўным удзельнікам літпрацэсу на Лагойшчыне. У альманаху яна прадстаўляе нізку вершаў, напісаных на розныя тэмы. Асаблівы тонкі настрой адчуваецца ў вершы "Не бывает некрасивых матерей", дзе аўтар усхваляе вобраз матулі, самы светлы і чалавечны з таго, што мае наш род. Гэты твор пераклікаецца ў нечым з прозай Галіны Мішнёвай, дзе тэма самаахвярнасці маці ў гады вайны таксама паднята на значны ўзровень. Аліна Савіцкая вельмі шчырая лірычная аўтарка, тонкі псіхолаг, яе літара-





турная гераіня вельмі ранімая па натуры, з адкрытым сэрцам ідзе да чытача, не баіцца ісці на вастрыё праблемы, агучваць яе і напрамую шукаць дыялога з чытачом. Асабліва гэта адчуваецца ў вершах "На коленях", "Брошенные", "Сизые голуби". Вельмі блізкай тэмай для аўтаркі з'яўляецца тэма прыроды, у прыгажосці якой паэтэса знаходзіць асаблівае натхненне. Чытаючы вершы, прысвечаныя порам года, можна ўлавіць рамантычныя думкі і асаблівы настрой Аліны Савіцкай.

Сярод шматлікіх аўтараў насамрэч выдзяляецца сваім асаблівым творчым настроем і спрактыкаванасцю напісання ***Святлана Сардэчная***. У нашым альманаху Святлана дэбютуе, хаця нельга назваць яе дэбютанткай у літаратуры, бо на самой справе яна шырока прадстаўляе свае творы на прасторах інтэрнэту, а таксама на старонках розных альманахаў, якія выходзяць на прасторах СНД. Святлана Сардэчная прадстаўляе чытачам падборку вершаў на розныя тэмы, сярод якіх вершы "Мой Минск", "Душа Есенина", "Я не хочу тебя терять" і іншыя творы. Найбольш экстравагантны з іх – верш "Три солнца любви". Ён пабудаваны аўтарам на арыгінальнай аснове: дзеля спасціжэння ўласнага пачуцця лірычная гераіня выкарыстоўвае тры "сонцы", сярод якіх "прикосновение", "объятие", "поцелуй", што эмацыянальна і гарманічна пададзены ў вершы. Святлана даволі вопытны аўтар, які не баіцца эксперыментаваць са словам. Таксама ёю прадстаўлены ў падборцы і невялікія празаічныя творы – гэта апавяданні "Дар" і "Планета желаний", дзе аўтарка выступае як філосаф, лірык і фантаст.

***Людміла Сівалобава*** з кагорты тых рэдкіх аўтараў, што заўсёды ў вобразах сваіх герояў знаходзяць прыгожыя і цікавыя рысы характараў. Нават калі герой і адмоўны, ён, тым не менш, шмат у чым цікавы, думае не архаічна, знаходзіць шлях з пункта "А" у пункт "Б" не праз знаёмую дарогу, а праз лазняк ці суседнія баракі, альбо нагул праз новабудоўлю. Канешне, я гавару ўмоўнымі штампамі, але Людміла Сівалобава за гэтыя апошнія гады зрабіла добрых некалькі крокаў наперад, каб стаць больш блізкай да чытача, больш карыснай для грамадства, бо людзі любяць чытаць цікавыя гісторыі. А ў жанры навэлы Людміла Сівалобава – ужо сапраўдны эстэт і знаўца сюжэту. Хто ж героі гэтай аўтаркі, спытае пытлівы чытач. Ды ўсе мы, героі

двух стагоддзяў, мінулага і гэтага, дробныя духам і натурай людзі, якім шанц падняцца на вышыню даецца рэдка, а тыя шанцы, што даюцца героям у навэлах Людмілы Сівалобавай, выкарыстоўваюцца кожным персанажам па-свойму. У гэтым і сіла аўтаркі, яе фантазіі, таленту і добрага ведання жыцця. У альманаху прадстаўлены дзве навэлы – гэта "Вяселле" і "Паветраны пірат", напісаныя па-беларуску, абсалютна розныя па сюжэце і канцэпцыі, але іх аб'ядноўвае тонкі гумар, бадзёрасць складу, неардынарнасць характараў галоўных герояў, адзін з якіх, між іншым, – кот, але думае і паводзіць ён сабе амаль як чалавек, а можа, нават разумней у некаторых абставінах.

Творчы багаж ***Алены Сініцы*** за апошні год значна вырас і якасна, і колькасна. Яе вершам хоць яшчэ і крочыць да сапраўды высокага ўзроўню нямала, але яны памацнелі, набылі нейкі другі подых, сталі глыбей і эмацыянальней. Аўтарка яшчэ няшмат часу знаходзіцца ў нашым клубе і друкуецца ў альманаху ўпершыню, але дэманструе сябе як разважлівы лірык і, нават, псіхолаг. Яна няблага піша вершы і па-беларуску, і па-руску, спрабуючы спалучыць у сабе дзве няпростыя моўныя стыхіі, і ёй гэта ў нейкай ступені ўдаецца. Вельмі цёпла гучаць яе вершы "Дыялог з мастаком", "Расце сасна, пасаджаная мною…", "Беражыце сяброў", "Сады", "Подари мне брильянт Новогрудка" і іншыя невялікія, але эмацыянальна насычаныя творы, поўныя творчых развагаў, захаплення лірычнай гераіняй жыццём, навакольным светам, і гэтыя ўражанні не штучныя, яны сапраўдныя, часам смелыя, крытычныя, алегарычныя і па-дзіцячы наіўныя. Але ў гэтым іх яшчэ большая каштоўнасць, сіла і імпэт.

***Валеры Скакун*** для нашага клуба – гэта бадай ужо творчы аксакал, які цягне і сябе, і нашу брыгаду да працоўных вышынь, сам паказваючы творчую спеласць, уменне знаходзіць час, каб раптам з чалавека, далёкага па прафесіі ад літаратуры, стаць родным з ею і працягваць гожа і чынна пісаць вершы, навэлы, аповесці, апавяданні, складаць песні, выступаць перад сотнямі ўдзячлівых слухачоў, знаходзіць ладнае крытычнае слова для сваіх сяброў па цэху, ствараць добразычлівую атмасферу на нашых сустрэчах, падтрымліваць равнічкоў. І гэта яшчэ не ўсё, што робіць добрага для нашай культуры, выхавання ваеннаслужачых у лепшых традыцыях беларускага вайсковага характару гэты ўжо немалады чалавек, які мае маладое





сэрца і нейкую юначую ўсмешку. Хто хоць раз выступаў на адным з канцэртаў разам з Валерыем, той не забудзе ягонага дрогкага пеўчага голасу, жвавых мелодый, зычнага тону прачытання вершаў, той унутранай любові да ўсяго роднага, беларускага і адчуе шчырую павагу да добрага рускага, украінскага, польскага верша ці песні. Сам Валеры мае ўжо не адну кнігу, гожа піша на беларускай і рускай мовах, а ў гэтым нумары альманаху прадстаўлены нізкай вершаў, у якіх, як заўсёды ў Валерыя, ёсць тэма дарог, вандровак, адзіноты ідучага па жыцці чалавека, і раптам той прыхаванай любові да ўсяго светлага, жвавага, да таго глыбока жывучага ў сэрцы чакання нейкага шчасця, якое мы на гэтай зямлі іншы раз губляем, а пасля імкнемся знайсці, дабегчы да яго, хоць і паасобку. Пранізліва гучаць вершы "Сарваўся я ў бездань сусвету…", "Наперад углядаешся – туман", "Не шукай мяне, вецер, ні лесам, ні полем…", "Мой дом пусты, у ім няма…" і іншыя шчырыя, часам драматычныя, але светлыя вершы.

Нашая ўдзячная аўтарка ***Джэма Случак-Марцінкевіч*** літаратурай захапляецца даўно і цягу да яе мае моцную. Хаця Джэма Аляксандраўна і нядаўна з'яўляецца сябрам нашага клуба, але за гэты час яна шмат сіл і энергіі аддала і аддае плённай працы на карысць клуба, пастаянна шліфуе, як сапраўдны агранщчык, свае творы, імкнецца развіваць тэматычную разнастайнасць сваіх вершаў, не баіцца эксперыментаваць, знаходзіць вострыя тэмы і смела аналізаваць іх у сваіх вершах. Яна, будучы шмат год настаўнікам матэматыкі, з матэматычнай строгасцю імкнецца адносіцца да сваёй творчасці, яе радок, як адбітак лічбы чалавечага духа, у пэўнай творчай прасторы мае свой непаўторны запал энергіі і духоўнай сілы. Літаратурнае слова Джэмы Аляксандраўны, як і слова настаўніка, ёмкае, філасофскі шмат у чым сімвалічнае, надзейна апранутае ў рыфмаваную форму. Яна ў сваіх вершах нібыта напрамую, як да вучня, звяртаецца да чытача, блізка дакранаецца да ягонага сэрца. Маўляў, пастой, пачакай, вось ёсць тэма, вось ёсць думка, паслухай гэтыя радкі і паслухай сваё сэрца. Прааналізуй сітуацыю, пастарайся рашыць задачу хутчэй і не рабі больш памылак, а верш папярэдзіць аб памылцы, а ў жыцці яе выправіць часам немагчыма. Таму вельмі сугучна нашай рэальнасці гучаць вершы "Цветёт сирень", "Учись

прощать", "Ищи дорогу", "Человек родился", "Крещенская вода" і другія творы, чытаць якія трэба павольна, думаючы і разважаючы.

Малады беларускі аўтар ***Вадзім Урублеўскі*** ў сваім жыцці імкнецца адолець вяршыні розных узроўняў і сваёй пытлівасцю і творчым патэнцыялам заслугоўвае ўвагі. Акрамя навуковай дзейнасці Вадзім з захапленнем адносіцца да літаратурнага слова, працуе над ім, і ягоныя вершы набываюць свой узор, насычаны фальклАрыстыкай, спрадвечна ўдумлівай беларускай філасафічнасцю, нават нейкай трагічнасцю, абумоўленай запалам маладога сэрца, для якога многія эмоцыі і душэўныя пошукі вартыя пільнай увагі аналізу. Паэт імкнецца перадаць чытачу свой асабісты погляд на знаёмыя і традыцыйныя рэчы, такія, як жыццё чалавека, каханне, нянавісць, прыгажосць прыроды, а таксама на спрадвечныя рэлігійныя тэмы, дзе чалавеку, як істоце грэшнай, яшчэ ёсць месца, каб адчуць сябе часткай высокага і прыгожага, часткай Боскай благадаці. Асабліва насычанымі прадстаюць перад намі па зместу і форме перадачы думак і вобразаў вершы "Бязмежнае", "Сон", "Аб вечным", "У вайскавым намёце", "Як у храме благадаць" і іншыя творы. Вершы Урублеўскага трэба чытаць з асаблівым настроем, разумеючы паміж радкоў і тое, што хацеў данесці аўтар паза межамі досведу туды, у таямніцы кожнага сэрца чалавека, дзе жыве нескароны нацыянальны дух і прага да ўсемагутнай праўды.

Наш новы аўтар ***Галіна Харытоненка*** не навічок у літаратуры і мастацкім асяроддзі. Яе нізка вершаў на роднай мове прасякнута магутнай энергіяй любячай свет і жыццё жанчыны, якая магічна ўвязвае ў сваіх строфах тую душэўнаю гармонію, што даецца людзям, добрым па натуры і шчыра ведаючым сваё наканаванне ў жыцці. Вершы Галіны Харытоненкі хоць і зразумелыя з першага погляду, але даволі эпічныя і касмічныя, каб проста заставацца хлапком эмоцый на фоне гаснучай нашай цывілізацыі, якая рвецца з веку рамантызма ў век прагматызма. Для лірычнай гераіні Людмілы цікава і абсалютнга блізка ўсё, што звязана з прыгожым, са светлым і эпічным. Яе творчасць увабрала і малыя, дробныя элементы жыцця, і ў іх аўтарка бачыць касмічнае і значнае, таму і творы яе, хоць і малыя по форме, але дужа вялікія па асэнсаванню. Лірычная геранія на першае месца ставіць любоў, яна так і мовіць: "Любоўю можна ўсё





перамагчы". Здавалася б, гэтая знаёмая формула зразумелая людзям, але яна не так лёгка працуе, бо патрабуе ад чалавека магутнейшых духоўных сіл, пастаяннай працы над сабой. А хто сёння хоча працаваць над сабой, сваім "Я", калі прасцей націскаць кнопкі, атрымліваць асалоду для сябе і жыць абсалютным эгаістам, не заўважаючы людзей, блізкіх і далёкіх. Але што далей? Хутчэй за ўсё, унутраны холад і боль сапраўднай адзіноты. Таму і вершы Галіны, такія, як "Лянота і сэнс жыцця", "Адзінота", "Галоўны сэнс", "Хто дасць вады?" і другія, дастаткова глыбокія і лірычна жывыя адначасова.

***Жана Хромава*** – вельмі адкрыты і пранікнёны аўтар, чалавек чыстага сардэчнага адчування свету, і гэты ўзнёслы настрой у сваіх творах мілагучна і дакладна яна перадае як юнаму, так і даросламу чытачу. Жана Яўгенаўна піша і вершы, і прозу – як для дзяцей, так і для дарослых. Робіць гэта вельмі натхнёна, практычна кожны яе новы твор – новы свет, дзе падаецца свой непаўторны сюжэт, імкненне быць арыгінальным і непадуладным часу. Героі твораў Хромавай няўрымслівыя, смешныя, хоць і часам трагічныя, як гэта часта бывае ў сучасным грамадстве. Свае сюжэты ў апавяданнях аўтар часцяком бярэ з жыцця ўласнага ці падслуханага недзе, убачанага некім, альбо задуманага пад арыгінал. Таксама героі Хромавай атрымліваюцца "з народу", са сваімі клопатамі і бачаннем свету. Жана Яўгенаўна лёгка бярэцца за любыя тэмы, і ўсё, што яна робіць з тэкстам, атрымліваецца і цікава, і захапляльна для чытача. Таму сведчаннем творы, сярод якіх "Казка пра дурнога зайца", "Кемлівасць правучыла", "Полтергейст" і іншыя творы.

***Святлана Чарная*** ўжо неаднаразова друкавала і друкуе свае творы ў розных выданнях, сама актыўна прапагандуе мастацкае слова, ладзіць выступленні, цёпла і шчыра чытае свае вершы на розныя тэмы, можа зацікавіць аўдыторыю сваімі расповедамі, піша прозу, энергічна, сюжэтна разнастайна і часам з глыбокім падтэкстам. У нашым альманаху Святлана дэбютуе і робіць гэта з уласцівай ёй грунтоўнасцю. Героі Чарнай не зусім простыя асобы, яны існуюць быццам у некалькіх вымярэннях адразу, ці так мовіць, у іх свой глыбокі ўнутраны свет, і яны ўвесь час знаходзяцца ў пошуку, трымценні перад чымсьці невядомым. І яшчэ героі Чарнай валодаюць моцным унутарным пачуццём гонару, яны дасягаюць нейкіх вышынь, альбо,

упаўшы балюча, не баяцца яшчэ раз узабрацца на каня, каб далей пагнаць яго галопам. Канешне, я пішу гэта вобразна, каб падкрэсліць тую ўнутраную свабоду, для якой нараджаюцца героі пісьменніцы, каб да таго яшчэ і зараджаць сваёй энергіяй іншых. Святлана не чураецца і кранання філасофскіх тэм сутнасці чалавечага жыцця і мае на іх свае невялікія адказы. Дакладней, самі героі іх шукаюць, як і павінна быць у сур'ёзнай прозе. На старонках альманаху мы друкаем цікавае апавяданне "Ушедшая Муза поэта", такія творы, як "Сладкий соус майонез", "Ржавое сердце", "Он, она и фэн-шуй", якія, безумоўна, зацікавяць чытачоў.

Творчы багаж ***Алега Чарнышова*** даволі ёмкі і разнастайны, і пра яго нельга распавесці на адной старонцы. Да навуковай і культуралагічнай спадчыны Алега Віктаравіча сёння можна аднесці вынаходніцкую дзейнасць, дызайнерскія распрацоўкі, літаратарнае слова, педагагічную дзейнасць, і гэта ўжо дасягненні, годныя сапраўднага майстра. Алег Віктаравіч не можа да любой справы адносіцца абы як, таму і ягоныя вершы, прадстаўленыя ў альманаху – гэта значны багаж духоўных пошукаў, лірычных аплікацый, філасофскіх развагаў. Вершы аўтара напоўнены ўласным бачаннем свету, разуменнем ягоных рухаў, знакавых падзей, нават да дробязей. Сказваецца багаты жыццёвы вопыт лірычнага героя, ягоная прынцыповая пазіцыя па важкіх тэмах, якая тычацца чалавека як асобы нашага сусвету. Канешне, не абыходзіцца ў такім разе і без эмацыянальнага суму лірычнага героя, ягонай расчараванасці ў сучасннам жыцці, ды калі ж паэты былі задаволены гэтым? Герой Чарнышова з характарам непасрэдным, часам баявым, непахісна наравістым. Таму ў адным з вершаў нават ёсць ускрык: "…крепись душа – ты главный козырь мой". Зусім па-сучаснаму гучаць вершы "Я живу. Нет ни дней, ни минут…", "Листая чётки памяти…", "Я молчу не от скудости мысли…", цудоўны верш "Подари мне на счастье бессонницу…" і іншыя, насычаныя вобразамі і глыбокім сэнсам творы.

Творчая прага ***Анатоля Шабекі*** да самавыражэння мае даўнінныя карані, і яны бяруць свой пачатак ад самай маладосці, дзе яшчэ амаль юнаком наш герой любіў пакараць вяршыні творчага Алімпу на эстрадных пляцоўках, удзельнічаючы у розных вакальна-інструментальных ансамблях Оршы, адкуль ён і родам. Але час ішоў,





Анатоль заставаўся творчай натурай, і сёння – ён аўтар шматлікіх песень, у тым ліку і бардаўскіх, вершаў і санетаў, акрамя таго, і аўтар празаічных твораў. А нашым альманаху Анатоль Шабека прадстаўляе сваю падборку вершаў, напісаных у розныя гады, і ў гэтай падборцы ёсць і прысвячэнні, і лірычныя творы, і так любімыя аўтарам вершы-разважанні на розныя тэмы. Вершы Шабекі лёгка чытаць, яны хораша ўпісваюцца ў вуглавыя праблемы цывілізацыі і хоць прэтэндуюць на нейкую палеміку з часам і грамадствам, але не даходзяць да крайняй мяжы закіпання эмоцый. Можа, гэта і даніна часу, калі эпоха трубадураў і пляцоўных паэтаў сышла ў мінулае, а на дварэ час глыбокага запою інтэрнетам, і людзям не трэба тлумачыць дзе жоўтае, дзе ружовае, а дзе і ад чорнага колеру засталася адна цвіль. Даволі змястоўна гучаць верш-прысвячэнне-песня "Город детства", вершы "Ты жизньзачем опять вдохнула…", "Друзьям детства", "Ушибы, раны, переломы", і нельга не сказаць пра цэлы гурт твораў, прысвечаных жанчынам, якія і ўжо ў прыспелым узросце не даюць спакою паэту. Сярод гэткіх вершаў чытаем "Незнакомке", "В тебе есть чары и загадка", "Любовь и время" і іншыя цікавыя і насычаныя эмоцыямі творы.

На нашым творчым экватары ***Ала Шыковіч*** зусім нядаўна, але па свайму творчаму запалу і энергіі яна мае не малыя шанцы, каб дасягнуць новых неблагіх паэтычных гарызонтаў. Ала не баіцца выказваць у вершах свае пачуцці смела і шчыра, і хоць яна пераважна піша вершы і песні на рускай мове, але ў іх пазнаецца гераіня-беларусачка, добрая, тонкая, эмацыянальна чыстая. Ала спрабуе адлюстраваць сябе ў шкле літпрацэсу як аўтарка любоўнай лірыкі, прычым яе гераіня – даволі эмацыянальная асоба, якая адкрывае сваё сэрца, поўнае шчасця, надзей, трывог, болю, адзіноты, мальбы, расчаравання і надзей. Чаго больш у творах Алы Шыковіч, змешчаных у гэтым нумары альманаху, няхай чытач сам разбіраецца. Вядома ж, дужа збалованых чытачоў сёння мала чым можна здзівіць. Але я веру, што абавязкова знойдуцца чытачы, якім спадабаюцца такія вершы паэткі, як "Чужой, чужая", "Пустота", "Укус скорпиона", "Любовь" і іншыя творы, частка з якіх ужо сталі песнямі.

Завяршае наш другі нумар "Літаратурнага экватара" аўтарка, чые творы ведаюць і чыталі як масцітыя пісьменнікі, так і про-

ста аматары і знаўцы літаратуры, – гэта ***Валянціна Янавец.*** І, што сімвалічна, мы закрываем альманах прозай, а пачыналі з паэзіі. Валянціна – наш завочны сябар клуба, бо жыве і працуе ў Брэсце. Валянціна Янавец прадстаўляе ў нашым нумары невялікую аповесць “Вечар... Ноч... Раніца...”, у якой трагічна паказаны выпадак з аднаго жыцця пэўна ўзятага чалавека, у дадзеным выпадку – жанчыны, якую хацелі забіць... Нажаль, як гэта часта бывае ў нашым жыцці, разлічваць гэтая жанчына змагла толькі на дапамогу сілаў прыроды, сусвету, і толькі потым, ужо нейкім містычным чынам, – на дапамогу людзей... Аўтарка выкарыстоўвае алегарычныя прыёмы з элементамі фантастыкі, але гэта нададае твору яшчэ больш мастацкасці, а альманаху творчай разнастайнасці і важкасці. Спадзяемся, што новыя цікавыя, з элементамі драматургічнасці творы будуць і надалей удавацца Валянціне Янавец.

На гэтым я завяршаю ўступны артыкул, які дае пралог вялікай працы ўсіх нашых аўтараў, што прадставілі творы многіх жанраў, быццам шукалі іх па закутках творчай нашай планеты, каб сабраць разам на адной паралелі нашага супольнага, безумоўна, цікавага і багатага на добрыя сюжэты і вобразы альманаху. І дазвольце ад імя ўсіх сяброў нашага клуба, аўтараў гэтага выдання і рэдакцыйнай калегіі прамовіць: “У добры шлях, наш альманах!”

*З павагай да ўсіх, паэт, пісьменнік,*
*кіраўнік літаратурнага клуба “Экватар”*
*Вячаслаў Корбут.*





***НАТАЛЛЯ АНАПРЭЕНКА***

*Нарадзілася 10 снежня 1975 года ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў 1998 годзе. Вершы піша з 1992 года. Паэтка, празаік, навукоўца. Шмат друкавалася і друкуецца ў перыёдыцы. Зараз працуе на філфаку БДУ. Рыхтуе дысертацыю па тэме “М. Багдановіч і Б. Лесьмян: ідэйна-мастацкія сыходжанні”.*

**ЛЯЛЬКА**

Ты майстар, што здольны на цуды,
І ты фантазёр заліхвацкі.
Расчуляцца нават зануды:
Такой не было яшчэ цацкі!

Разявы праймуцца здзіўленнем,
Прароцтвамі скажа празорца:
Яна стане дзіўным стварэннем,
Ты – найдасканалейшым творцам.

Нібыта ў нябыт каляіна,
Твой погляд атрутны і жвавы.
Спіраллю заўецца гадзіна –
І лялька паявіцца з навы.

Раскрыюцца вочкі-блакіты,
Блісне валасоў пазалота.
Ты – ёй гаспадар самавіты,
Яна – для цябе асалода.

Твой выраб табе даспадобы.
Ты геніям можаш назвацца:
Такой не было яшчэ спробы,
Каб лялька магла закахацца.

Адзінствам і формы і зместу
Намер твой аформіцца хцівы:
Яе апранеш, як нявесту,
Свавольнік уладалюбівы.

Пасля замест шлюбнай пасцелі
Адправіш яе ў дамавіну.
Міжсветавыя паралелі
Струменямі адрэналіну

Распаляць лядоўнасць натхнення,
Абудзяць – так, то твае чары:
Зазнае яна жах падзення –
Адчуеш узвышанасць мары.

Яе смерць пакліча ў нікуды –
Табе шлях асвеціць заранка…
Два прывіды: майстар славуты
І мёртвая лялька-каханка...

**ГЛАЗУРАВАНЫЯ КВЕТКІ**

Успаміны вострымі стрэламі пранізваюць цялеснасць будзённасці, абуджаючы душу сапраўдным болем. Чырвоная пастка крывацечнай раны і пустэча лабірынтаў, дзе ты становішся толькі марай. Нязбыўнай, неспасціжнай, далёкай. Маўклівы крык штораз абпальвае маё сэрца – і як водгалас распунсавеюцца нябёсы ад крывавых архангельскіх слёз. Але я падару табе не пакуты. Я падару табе ўспаміны і незабыўныя сны.

Нябёсы юнацтва, азораныя таемным мігценнем сусветнага акіяна, што для нас утаймаваў свае бурныя ласкі. Імклівасць жаданняў у імгненні залатога маўчання. Час авалодвання зорным ззяннем – і цішыня агучваецца прароцтвамі…

Я падару табе не расчараванні. Я падару табе прадвяшчанне Магінь і талісманы агняцветных галактык.





Густыя зараснікі глыбінных сфер і аранжарэі звышіснавання. Патаемнае дзеянне пераўтварэння: горыч на сэрцы распускаецца бессмяротным Першацветам, ліючы ў сусвет палымнеючы водар Любові. Зорныя ростані ў пырсках агнёў – але толькі жменя іскраў далятае да зямнога паветра.

…Начное бяздонне і кліч нашых жаданняў. Распалымнеліся кветкі сузор’яў. Кветкі, глазураваныя болем.

***

Сілуэты дамоў, лабірынты дарог...
Засынаючы горад – тайнік летуценняў.
Манатонныя будні, скразняк-маналог,
Безнадзейнасці час і хвіліны сумненняў…
Горад мроіць, свае раскідаўшы агні
Стралянінай начной у паветраны замак.
Прыцягненне нябёсаў – магніт вышыні.
Пералівы сузор’яў – сапраўдны прыстанак.
Захавальнік тугі – сонны месяц-ліхтар.
Безыменная зорка адчаем іскрыцца.
Сэрца рвецца на волю, нібыта бунтар,
І здабытай свабоды, як здраднік, баіцца.
Спячы горад застыў у сваім запусценні –
Маналітным абрысам у нетрах начных.
Дэкарацыі цемры, вялізныя цені,
І бяздонне тугі процьмай думак услых.
Апускаючы вочы, іду ў нікуды.
Гэта ноч – безуладдзе і драма кахання.
Нашы душы развязаныя назаўжды.
Зверху – полымя зорак, тут – блік затухання.
Утаймоўванне ночы. Іду наўздагад.
У цянётах чужых і маўкліва, і нудна.
Гэтай ноччу для нас з табой быў зарапад,
Але зоры зцьмянелі на золку марудна.

дзе да хаты ён трохі супакоіўся, але думкі пра тое, што яму давялося ўбачыць, не пакідалі ягоную галаву.

**5.**

Прайшло лета, за ім восень, пачалася снежная і суровая зіма. Якаў з сям'ёй на Каляды затрымаліся ў мястэчку. Ён з жонкай апрануліся ў цыганоў, забрудзілі сажай твары. Пасавалі ім і дзеці: прыцямнілі воскам твары, намазалі сажай бровы, скачуць і спяваюць на цыганскі лад. Па чарзе завіталі яны да кума Піліпа. Пад акенцам яго хаты Варвара, Гардзей і маленькая Настачка запыталі ва ўвесь голас:

– Гаспадар, спяваць?

Вось яны заспявалі пад акенцам, паступова пераходзячы ў хату:

– Як у пана, пана, так і ў Піліпа
Свечачка стаяла, а хто ў той свечачкі?
Сам Гасподзь купаўся, у рызу апранаўся.
Святы вечар, добры вечар!
Святы вечар, добры вечар…

Дзяцей адцягнулі ад спеваў усялякімі прысмакамі. Пасля святочных прадстаўленняў усе расселіся за доўгім драўляным сталом. А на стале – салёныя гуркі, квашаная капуста, салёныя грыбкі, халадзец. З печы падалі боршч, бульбу, затушаных кур. Як толькі старэйшыя выпілі па чарцы гарэлкі, Піліп запытаў у Якава:

– Ці памятаеш, кум, як я ў пана на Каляды лазню тапіў?

Якаў паглядзеў яму ў вочы, затым у вочы сваёй жонцы і, праглынуўшы мякіш хлеба, які застраў у ягонай глотцы, ціха прамовіў:

– Ага.

– Дык вось, я ўсё думаў, які яны падарунак прасілі, аб чым размаўлялі. Яны ад яго, – Піліп падняў угору ўказальны палец і прадоўжыў, – дзіця прасілі.

– Як гэта, дзіця? – спытаў Якаў.

Дзяцей запрасілі пагуляць у другім пакоі, а кум Піліп працягваў:

– Зараз яны абедзьве цяжарныя: і паненка маладая, і дачка Гусака. А хто бацькам будзе, ніхто не ведае. Гэтыя Ліпінскія ўтойваюць усё, нікуды паненку не выпускаюць, гавораць, што яна ўсё хварэе.

Якаў слухаў і маўчаў, маўчаў і думаў. Успамінаючы той вечар, калі стаў нявольным сведкай таго, што выраблялі гэтыя жанчыны ў глінішчы. Аб сваім бачанні ён расказаў толькі жонцы Хрысціне.





Папрасіў яе зноў напісаць яму малітву, якая аберагае ад ворагаў і злога духу. Цяпер Якаў сядзеў і моўчкі слухаў, а рукой ціха нашчупваў у кішэні аркуш з запісамі малітвы.

У гэтым жа годзе ў канцы зімы памерла маладая паненка Ліпінская. Ніхто так і не пазнаў, ад чаго і на што яна хварэла. Пахавалі паненку Магду ў сямейным склепе, што на ўзгорку пры выездзе з мястэчка. Замуравалі склеп каменнай кладкай і прывалілі вялізарным чорным камнем, на якім штосьці напісана па-польску.

Прыйшла доўгачаканая квітнеючая вясна. Хутка сыйшоў снег, і паплылі па рэчцы крыгі. Пасля Вялікадня і Радуніцы зазелянела свежая трава. Больш за ўсіх рады цёпламу надвор'ю былі дзеці і птушкі. Іх звонкія галасы і гоман чуваць было ўвесь дзень.

Дваццацічатырохгадовая дачка мясцовага дядзькі па прозвішчы Гусак нарадзіла хлопчыка, якім была вельмі задаволена. Дарэчы, задаволена была толькі яна адна. Па мястэчку пайшлі чуткі, что яна і маладая паненка займаліся варажбой і мелі зносіны з нячыстай сілай. А з нараджэннем дзіцяці, якога ў народзе празвалі "чортаў падарунак", аднавяскоўцы адкрыта вялі размову пра гэта. Пайшлі чуткі пра "чортаў падарунак" далей і праз гады.

**6.**

Нейкі час пасля ўспамінаў бабулі ў пакоі захоўвалася цішыня, адчувалася шарганне яе стомленых ног у другім пакоі, бліжэй да кута, дзе заўсёды адбываюцца набажэнства.

Неўзабаве ўсё зноў з'яўляецца ў маіх думках, нібыта ў чароўнам сне. Яшчэ не стары, яшчэ моцны гаспадар Якаў, ягоныя азартна-гаманлівыя дзеці, аматар крэпкіх напояў Піліп, чароўная і важнецкая паненка Магда, дзяучына-прыслужніца – дачка Гусака з немаўляткам, якога па гавэндзе за вочы празвалі "чортаў падарунак".

– Сапрауды гэта было? – пытаюся ў сваёй бабулі праз нейкі час.

– А як жа, вось так і пражыў з гэтай мянушкай. Цяпер ужо пажылы. Бядуе і ўсё жыццё расплочваецца за грахі сваёй маці. Не дай, Божа, пазнацца з нячысцікамі. Грэх, вялікі грэх. За ўсё адказ трымаць перад Усявышнім.

І зноў вакол застаецца цішыня, толькі праз некалькі хвілін чуваць ціхі голас старой бабкі:

– Не дай, Божа…

## ВЯЧЕСЛАВ ДАНИЛОВ

*Родился 31 августа 1970 года в Минске. По образованию – бухгалтер. Пишет стихи с 16-ти лет. Участвовал в 11-ти коллективных сборниках, в том числе в "Антологии современной русской поэзии Беларуси". Состоит в редколлегии альманаха "Панядзелак", в котором ежегодно публикует свои произведения. Печатался во многих республиканских газетах и журналах, среди которых "Неман", "Немига Литературная" и др. Автор книги стихов "На ладонях тишины" (2008 год).*

***

Я совершаю от уныния побег.
А новый день уже вступил в свои права.
Душа так ждёт, когда вокруг растает снег
И оживёт в лесу зелёная трава.
Когда деревья расцветут, растает лёд,
Очнутся звёзды, наконец, от зимних снов,
На небо радуга весёлая взойдёт,
Игриво спрячется в перине облаков.
Хочу в руках своих подснежник отогреть,
Услышать смех шальной красавицы Весны,
В глаза её хотя бы мельком посмотреть,
Уснуть спокойно под плащом из тишины.

***

День догорел, а мы с тобой молчали.
На платье ночи грустный был узор.
Вино в бокалах с привкусом печали.
В глазах твоих – обида и укор.
Дома укрыты темнотой, и холод жгучий,
И мёртвый блеск неоновых огней,





А завтра утром солнце скроют тучи,
И я покину город злых теней.
С волною чувств едва ли совладаю.
Их спрятать не получится от всех.
Уйду туда, где бабочки порхают
И музыкой звучит весёлый смех.

***

Я жду, когда цветное вдохновенье
Отыщет взор в подтаявшем снегу,
И, с Божьего на то благословенья,
Я написать хоть что-нибудь смогу.
Лучи его сольются в белой точке
С названием простым "бумажный лист",
И явятся на свет такие строчки,
Что до сих пор ещё не родились.

***

Каким-то воздух стал тяжёлым,
И стало трудно мне дышать.
Ещё недавно был весёлым,
А что случилось – не понять.
Вдруг изменилось настроенье,
Вонзился в небо тусклый взгляд.
Ищу хоть в чём-нибудь спасенья –
Я ничему теперь не рад.
Меня не радуют закаты,
Душа не чувствует тепла,
А та, кто в этом виновата,
С Апрелем под руку ушла.

***

Хмурое облако в небе летело,
В зелени трав засыпали цветы,
Ночь на опушке у камня сидела,
Звёзды развесив, как будто мечты.
Плакала роща берёзовым соком,
Ветер по ней утомлённо бродил,
Думал о вечном, о чём-то далёком,
Прожитый день не спеша хоронил.

***

Непрошенно в душу прокралась хандра,
А тополь стоял величавым и грозным.
Рассвет раздувал в небе пламя с утра,
Оно только хмурилось – было серьёзным.
У печки котёнок, зевая, скучал,
И флюгер не мог ото сна пробудиться,
Речная вода целовала причал,
Летели на юг перелётные птицы…

***

Отражается солнце в бутылке пивной
И играет лучами на гранях стакана.
Эй, дружище, послушай, ты выпьешь со мной?
Я сегодня хочу быть весёлым и пьяным.
Расскажу тебе, друг, я о жизни своей,
Об успехах ненужных, о горьких потерях.
Только лишь не обмолвлюсь ни словом о ней –
Той, что утром ушла и захлопнула двери.





***

Присев поближе к приоткрытому окну,
Я наблюдал, как ночь у клёна за спиной
Вплела в прическу ярко-жёлтую луну,
Трамвай уставший проползал по мостовой.
Звезда сорвалась, утомлённая, с небес,
Асфальт нагретый отдыхал от суеты.
И в предвкушении предутренних чудес,
Душа надеялась, что сбудутся мечты.

***

Опять этот город безропотно замер
И ловит дожди на прогнившие крыши.
Я снова расстанусь навечно с друзьями
И больше тебя никогда не увижу.
Дыхание ветра почувствую рядом
И где-то в листве тополей затеряюсь,
Окину уснувшие улицы взглядом,
И сразу во всём, как обычно, раскаюсь.

***

Выпью одиночества и скуки,
Выкурю десяток сигарет…
Слушая, как в море тонут звуки,
Плещется в волнах его рассвет.
В комнату проникнет свежесть бриза.
Больше не скажу тебе “люблю”.
Тополь чуть касается карниза.
Я в бокале чувства утоплю.

***

В объятьях клена покраснела вишня,
И скрипнул ставнями, увидев это, дом.
А ночь на сцену серых улиц вышла,
Красуясь в чёрном, как принцесса за окном.
Её на танец ветер приглашает,
Склонясь в глубоком реверансе, до земли.
Он до восхода прогуляться с ней мечтает
Туда, где дремлют перед штормом корабли.

***

Спрятав свет луны в котомке тощей
Я смотрел на то, как звёзды спят.
Молния оставила свой росчерк –
Там, где днём кружился листопад.
Пальцами стуча по крышам чёрным,
Ветер разломал сюжеты снов.
Бережно хранящим мудрость клёнам
Всю листву сорвал.
И был таков.

***

Забываю, как гневаться, спорить.
Душу злобой на всех разрушать.
Обучаюсь безмолвию вторить
И ветрами над полем дышать.
Заблудившись в некошеных травах
Я учусь никого не судить,
Не искать виноватых и правых,
Верить в чудо и просто любить...





***ВЯЧАСЛАЎ КОРБУТ***

*Нарадзіўся 2 ліпеня 1972 года ў Слуцку. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў 1994 годзе, юрыдычны факультэт Белдзяржуніверсітэта – у 2000 годзе. Паэт, празаік, публіцыст. Піша па-беларуску. Вершы друкаваліся ў газетах “Чырвоная змена”, “Наша Ніва”, “Літаратура і мастацтва”, “Сям’я”, “Беларуская ніва”, у часопісах “Маладосць”, “Вожык”, “Першацвет” і інш. Аўтар чатырох мастацкіх кніг: “Цар-алень” (1997 год: вершы), “Начны мастак” (2000 год: вершы і апавяданні), “Чаму ўсміхаецца сонца?” (2005 год: вершы і паэмы), “Байкі дзядзькі Лапатуна” (2010 год: сатырычная паэма, байкі, гумарыстычныя апавяданні). Друкаваў свае творы ў некалькіх калектыўных зборніках. Член Саюза пісьменнікаў з 2000 года. Аўтар серыі кніг, прысвечаных прадпрыемствам Беларусі. У цяперашні час працуе на літаратурна-выдавецкай ніве. Кіраўнік літаратурнага аб’яднання “Экватар”. Жыве ў Мінску.*

ПРАДАЖНЫМ

Што вы яшчэ не прадалі?
Зямлю, саборы, неба, скверы,
Магілы продкаў, рэшткі веры,
І ШТО Б ВЫ НЕ ПРАДАЦЬ ЗМАГЛІ ?

СКАРЫНЫ кніжкі ці Праспект,
Мастоў гарбатых дрэвы-плечы,
А можа траўня цёплы вечар,
Ці юны, здольны інтэлект?

І час, нажаль, такі прыйшоў,
Што прадаюць ужо тут гуртам
Душу і глебу, думак гурбы,
Дзеля хвілінных, дзікіх шоў.

Дзядоў папрок, нібыта соль,
Пасыпле, можа, вашы раны:
Куды падзелі наш вы боль,
Нашто наеліся падманаў?

Ужо, нажаль прадажны люд
Не чуе гэтых сумных словаў.
Так, абяздушаны народ,
І ён прыцiх амаль няўлоўна.

І хто прадаў вясковы дом
За гарадскі той кут утульны,
І роднасць мовы, што крылом,
Вас болей, можа, не атуліць.

Што аб’яднала нас усіх,
Пакорлівых і хітра-сквапных?
Цынізм! Ён ненажэрны псіх,
Вам моцна паціскае лапы.

**ДУМА ПРА БЕЛАРУСАЎ**

Вялікія рэкі, і рэкі з імжою,
Загублены горы, абсягі тугою,
Не плача адна толькі кнігаўка ў полі,
Ці мы, беларусы, нявольнікі волі?

Змагаемся самі з бязвер’ем бацькоўскім,
З матуліным страхам і болем дзядоўскім,
Зямлю падзялілі сваю на квадраты,
Хто мы, беларусы, – душы сваёй каты?

О, так і катуем мы мову самотна,
Яна ж у астрозе сумуе маркотна,





І мова то плача, то горка смяецца,
А з нашымі душамі штосьці дзяецца.

Хто мы, беларусы, – снапкі лугавыя?
А нашы дзяды – то дубы векавыя!
Забыліся іх, іхняй крэўнай надзеі.
Што стала з народам сталёвым і дзейным?

Хто мы, беларусы, – надзея тыранаў,
Служакі нячыстых, закланных баранаў?
Сябе неахайна губляем у свеце,
А кім стануць нашыя ўнукі і дзеці?

Пачварамі ці дылетантамі часу,
Быллём на прасторы без сіл і прыкрасаў?
Усцешуся тым, што па згубленым плачу
Вялікім народзе, што жыць мог іначай.

Не веру ў бяду, што згрызае планету,
І нас паглынае з бяздушным імпэтам.
Таму, каб застацца навек беларусам,
Не трэба губляць мовы-маці абрусы,

Якія ад водару хлеба хмялелі,
Ад спеваў народных упарта смялелі.
Ад статнасці гэтай народ ажывае,
І годнасці сцяг над сабой узнімае!

**Я ВЕРУ ЛЮБАЙ БЕЛАРУСІ**

Я веру любай Беларусі,
У волю дужага народа,
Што жыць у годнасці імкнуўся,
І выжыў пад васцём нягодаў.

Я веру ў росквіт Беларусі,
У беларускасць нашай долі,
Краіны, што душой крануўся,
І з ёй я не памру ніколі.

І не шукайце ранаў болей
На целе велічных абсягаў,
Зажылі раны яе долі,
І ёй не быць ужо бадзягай.

Я веру ў славу Беларусі,
З вялікай прагай жыць праўдзіва,
Яе я сынам назавуся,
Яна ж маіх натхненняў дзіва!

**ЗАПАВЕТ**

Давайце, людзі, сябраваць,
Давайце будзем мы братамі
Ці сёстрамі – нас не разняць,
Калі мы будзем разам самі.

Тады ніхто, ні ў якім сне
Нам не дазволіць быць слабымі,
Далонь сяброўская кране
Плячо – не будзем больш чужымі.

Давайце, людзі, жыць мудрэй
І шанаваць мацней старэйшых,
Не гнаць малодшых ад вачэй,
І паважаць – за нас, смялейшых.

Давайце, людзі, бараніць
Свабоду, веру і надзею,





Каб чалавек мог болей жыць
У кожным з нас, і не халдзеем.

Давайце будзем дараваць
Сябрам сваім усе памылкі,
Каб не прыйшлося пахаваць
Вялікіх дасягенняў крылкіх.

Давайце берагчы наш дом –
Найпрыгажэйшы ж у сусвеце!
Каб ён з-за нас не йшоў на злом,
Каб ён застаўся нашым дзецям.

***

Жаўцеюць палі, каласы наліваюцца,
Па хвалях азёр, быццам з мовай сяброў,
Зноў лета лісліва ў гулі збіраецца,
Бліжэй да купальскіх ідзе галасоў.

У небе туга па-за хмарнага стрэлу,
Начной навальніцы чакаецца баль,
І лета гукае, хто стрэнецца смелы,
Хто шчасце адолее сэрцам прыдбаць?

Ужо пераспела чарэшня ў тым садзе,
Яе паспрабуе свавольніца ноч,
А хто пераможа ў купальскім нарадзе
Сярод прыгажунь? Толькі іх не суроч.

Мне лёгка і цяжка, таму я ўсміхнуся,
Пад пырскі дажджу падстаўляю далонь,
Ён хуткі і цёплы, па ўсёй Беларусі
Ад спёкі астудзіць гарачую скронь.

І моцны касцёр запалае, бы востраў,
І песні абудзяць рамонкавы луг,
А папараць ледзь нахінулася росна,
І знічкай згарэла, ды ў тысячах рук.

**ДВА ПАЭТЫ**

*Івану Пераверзіну*

Дровы не спачатку запалалі,
Лёд не растапіўся з першых слоў,
І ракі замоленыя хвалі
Не знайшлі спакой ля берагоў.

Людзі не прыходзяць на хвіліну,
Словы не змаўкаюць назаўжды,
Мы ж з паэзіі – адной краіны,
Дзе не замярзаюць гарады.

– Ты жывы, за гэта дзякуй небу!
– Ты таксама, і мацнейшым стаў!
– Прага перамогі – водар хлебу.
– Сіла чалавека – волі сталь.

Размінуцца нашыя дарогі,
Пыл клубамі рвецца да нябёс,
І Пегасы панясуць, як богі,
Да вышынь – у кожнага свой лёс.

Толькі, як жыццё вапрэцца рогам,
Ведай, што мая рука, мой меч,
Будуць нечаканаю падмогай
Сярод бітваў, рубішчаў і сеч.





***

*Інзе Вінарскай*

Наш новы дзень, як новае святло
Жыццё вірліва мкне да гарызонтаў,
Маё крыло кране тваё крыло,
Адчуюць сэрцы зноўку пекнасць зораў.

Чыясьці прага стане лебядой,
Чужыя мары змерзнуць на арбітах
А нам з табой не знацца век з бядой,
Яе каметамі ўжо здаўна сыты.

Ты не шкадуй, што лёс расплавіў трон,
Што нам дастаўся ад былых паэтаў,
Мы ведаем: жыццё – не кліч варон,
А порах, што рассыпаны з імпэтам.

І мы падпалім гэты цуда-скарб,
Каб пасвятлелі вочы – у народа.
Жыві, свабода! А народ – не раб,
А волат, што мужнее з асалодай!

**ЯК АБ’ЕЎСЯ НАШ СЯБРУК**
*Байка*

Раз у госці завітаў
Стары, добры наш сябрук,
І, як трэба, запытаў:
– Есці будзем ці каюк?
Гаспадар прамовіў хаты:
– Ёсць вяндліна, галубцы,
Пару свежанькіх салатаў

І пухнатыя блінцы!
А таксама бульба з мясам,
Рыба трох, відаць, сартоў,
З лепшай крамы ёсць каўбасы,
Стос салёных агуркоў.
Наш сябрук міргнуў шчасліва,
– А пітво якое ёсць?
– Дарагі, сядай імкліва
І глядзі – ты ж званы госць.
Вось на стол нясуць гарэлку,
Піва бутляў, можа, сем –
Наш сябрук, нібыта грэлка,
Стаў свабодным ад праблем.
Кроў гарачая пульсуе –
Вось які тут пачастун,
Госць ужо, бы конь, гарцуе,
Замурлыкаў кот Баюн.
І, запрошаны да столу,
Наш сябрук – жаданы госць,
Не хінецца ён да долу,
Зніклі боль, адвага, злосць.
Не пярэчыць, без сумневу.
Не цягацца, хто смялей,
Наліваем, п'ем без гневу,
Піва льецца, бы алей,
У бакалы, далей – страўнік.
Ён стрывае, дайце жыць.
Наш сябрук такі забаўнік,
Можа добрым хлопцам быць.
Тост за творчасць і натхненне,
А пасля за апетыт,
Да відэльца пруць саленні,
Мяса маніць, бы магніт.
Час гарэлкі падыходзіць,
У кампаніі мандраж,
Чорт ліхі за чуб не водзіць –





Нас не стрэне сабатаж –
Горкай студзяцца настроі,
З салам, хлебам і гурком.
Пасля сёмай – мы героі,
І амаль што пад сталом.
Наш сябрук і тут, як волат:
Ён талерку халадцу,
На дыван сцягнуў, бы молат,
І даеў, нібы пацук.
Крык пасля раздаўся ў хаце:
– Хопіць! Болей не магу!
Трэба адпачыць нам, браце,
Каб падняцца на нагу!
І зваліўся госць удала
На канапу, быццам штык,
Не даеўшы рыбы з салам,
І прыснуў, прыціх, бы знік.
Засапеў сябрук магічна,
Быццам выканаў загад,
Паспытаў усё практычна,
Быў таму бясконца рад.
Заўтра гэта не ўзгадае –
Ранкам голад пазаве
Да сталу, дзе так чакаюць,
Галубцоў талеркі дзве!

## ГУСЬ І КОНІ

*Байка*

Набыў аднойчы гусь сабе машыну –
Памчаў той лімузін абы куды.
Свісціць наш гусь – маўляў, цяпер я слынны,
І розныя пабачу гарады.
Паехаў…
Тут з-за павароту коні,

Шлі пехатой павольна па шашы.
– Эй, вы там, сваякі замежных поні,
А ну, дарогу саступіце для машын!
Мой Божухна, ды вас ужо тут зграя!
– Дзюбаты, пачакаеш – лепш жывеш,
Мы – на пікнік, там вып'ем і зайграем,
Прыходзь да рэчкі – з намі лепш паржэш!
І гусь, табун вясёлы прапусціўшы
Да хаты даляцеў у крок адзін,
А жонцы, фрак свой лепшы нацапіўшы,
Сказаў:
– "Абмыць" мне трэба лімузін.
Вярнуся – завязу цябе да мора,
У рэстаранах там прысмакаў шмат!
– Ляці хутчэй, гусінае ты гора, –
Крычала жонка, клюючы шпінат.
І вось наш гусь, як пан, сядзіць ля рэчкі,
Табун ужо цягае восьмы тост,
Кабылы п'яныя ляжаць, як грэчка
Пасля віхуры, жруць з саломы торт.
Прызналі коні гусака адразу
Стакан віна налілі да краёў.
– Я за сяброўства п'ю капытных разам
З вандроўнікам нябесных берагоў!
Пасля ў адказ без аніякай злосці
Напажадалі коні рознага гусю,
Частуюць траўкай скошанаю госця,
І за машыну новенькую п'юць.
Наш гусь цяпер (з кудлатаю хахолкай) –
Цэнтральная фігура пікніку,
І кажуць коні:
– Пракаці нас з толкам,
А то мы нацягаліся плугоў.
У лімузін залазяць, хто як можа,
І ён трымае коней тых ледзь-ледзь,
І пнуцца, як у вырай чэрці, гожа –





Трашчыць машына, шкло, жалеза, медзь.
Улезла мо пяцёра, ржуць кабылы,
– Да перашага слупа вам, хлопцы, шлях!
Кіруе гусь, што мае сп'яну сілы,
А сілы мала – едуць па гаях.
І раптам яр… не вырулiў кіроўца,
Машына йдзе накатам да нізін,
Даў дзёру гусь, б'е крылам роўна,
Перакуліўся з конямі лімузін.
Разлаяліся тыя, капытамі
Пад п'яны гам машыну датаўклі,
А гусь, бы здраднік, з мутнымі вачамі
Да вёскі ледзь даплёўся па раллі.
І з той пары машыны аблятае,
Гарэлкі ў рот ён не бярэ зусім,
Ну, а каня заўважыць – уцякае,
Нат калі йдзе за плугам конь адзін.

______

Сяброў шукайце – хай вас лёс шануе –
Не па законе сытага стала,
А па плячы сяброўскім, што ратуе,
Калі шалёна мчыць бяды страла.

**ВЯЧАСЛАЎ МАКУЦЬ**

*Нарадзіўся 1 лістапада 1953 года ў Ваўкавыску. Першы паэтычны вопыт зрабіў у 6 класе, першыя крокі на сцэне – у 7-м. У 1969 годзе паступіў у Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча і адразу ж прыйшоў у тэатр да выдатнага рэжысёра і педагога Абрама Міхайлавіча Гільварга. Гэта і паслужыла выніковым рашэннем у абранні будучай прафесіі.*

*Пасля заканчэння Гродзенскага музычна-педагагічнага вучылішча працаваў у роднай школе настаўнікам музыкі і спеваў. Потым служыў у войску, дзе былі напісаны першыя апублікаваныя у далейшым вершы. Пасля службы – зноў праца ў школе. Але тэатр і творчасць аказаліся мацнейшымі за чыста педагагічную дзейнасць.*

*Рэжысёр Заслужанага аматарскага калектыва РБ тэатра драмы і камедыі “Славуціч” Ваўкавыскага раённага Дома культуры з 1985 года. Паэт, кампазітар, сцэнарыст. Член Союза тэатральных дзеячаў Рэспублікі Беларусь. Аўтар паэтычных зборнікаў “Калейдоскоп жизни” і “Избранное”. Друкаваўся ў перыядычных выданнях. Увайшоў у анталогію “Современная русская поэзия Беларуси”, у зборнік “Творчество работников культуры Гродненской области”. Аўтар гімну горада Ваўкавыска.*

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА МАЯ**
*Акраверш*

Беларуская мова, ты – лепшая ў свеце.
Ефрасіння калісь размаўляла на ёй.
Ланцугамі закоўвалі, кідалі ў смецце,
Абвяшчалі цябе непатрэбнай, старой...
Рабавалі цябе, раздзімалі, як попел
Узурпатары мовы, “культуры бажкі”.
Сілай ператваралі ў пацеху Еўропе.
Кабалой абкладалі, бы дурняў якіх,





Але ж мы не памерлі, прайшлі праз стагоддзі,
Яснай песняю беды мы перамаглі.

Маладзіцай зноў мілай жывеш ты ў народзе,
О, цудоўная мова цудоўнай зямлі!
Векавечная ты – душы век цябе помняць,
Аб’ядноўвай дзяцей зноўку ў розных краях!

Мару я, каб любоўю заўжды была поўнай,
Апантанасць у спевах нясу салаў’я:
Я цябе зноў пяю, поўны мары чароўнай!

**ДОБРАГА РАНКУ, КРАІНА!**
*Акраверш*

Дзякуй Богу, ночка неяк пракульгала...
Ох, і цяжка з ёй змагацца мне ў бяссоні.
Быццам бы нячысцік на мяне кагалам
Раптам па душы праехаў, нібы коні.
Азнабіўшы маё сэрца ліпкім страхам,
Гадкім сном мяне хацела ноч спалохаць...
Адарваўся ад падушкі, як ад плахі,

Растапіўшы ў сэрцы чорны лёд Малоха.
А за шклом аконным благадаць такая:
Неяк, быццам сарамліва, сонца ўсходзіць,
Калаўротам птушкі ў небе кувыркаюць,
Уцякае крот ад свету ў агародзе...

Кожны ранак прасынае ўсё жывое,
Распачаўшы новы дзень святло, бязвінна.
Ах, прырода, нас, здаецца, толькі двое,
І, канешне, мая матухна-краіна.
Назаўжды я ёй жадаю добрых ранкаў –
Абуджацца чыстай, светлаю заранкай!

## НАРАЧАНСКІ АКРАВЕРШ

Ноччу думкі-птушкі ў галаву прыходзяць,
Ажно вось успомніў зноў пра акраверш.
Распачну я песню новую ў лагодзе:
Асалода-Нарач, ты мяне завеш.
Чараўніцай-марай маніш-заклікаеш,
Абуджаеш сілы ад хваробы-сна...
Назаўжды жывая ты, любоў людская,
Сонечная, быццам ластаўка-вясна.
Калаўротам зорак закружыла Нарач
І вярнула ў сэрца зноў юнацтва мары...

Азірнуся ранкам, усміхнуся сонцу,
Калыхнецца хваля каля ног маіх,
Распахнецца далеч – шчырая, бясконца...
Апантана спевы дораць салаўі...
Веліч Беларусі, гонар і пяшчота,
Ейнае багацце, радасць, боль і сум...
Расчынёным сэрцам да цябе я ўпотай,
Шчасця ў пажаданні зноў сваім нясу.

## РОДНАЙ МОВЕ

Забываюць мову, забываюць...
Забываюць сэрцам, галавой...
Забыццём Радзіму забіваюць, –
Бо без мовы будзе як жывой?

Дзе пачуеш сёння: “З добрым ранкам!”?
І знікае недзе: “Добры дзень”.
Словы гэтыя ясней заранкі,
Чыстыя, як блікі на вадзе.





Дык чаму ж яе не чуць у хатах?
У садках дзіцячых не чуваць?
Скажуць мне: “Двухмоўем мы багаты!”
Нешта мне “двухмоўя” не відаць...

Радыё – амаль усё – па-руску!
Тэлек – там таксама – дзе-нідзе!
Размаўляючых па-беларуску
Вельмі цяжка адшукаць людзей!

“Песні роднае зямлі” гучалі –
І краіна моваю жыла.
Адспявалі – зноў душа ў адчаі,
Зноў над мовай роднаю імгла.

Так! Квітнее Беларусь, як сонца.
Ведаюць яе ва ўсіх краях...
Хай гучыць і шырыцца бясконца
Мова беларуская мая.

Беларусы ёсць на ўсёй планеце,
Мову нашу там паўсюль чуваць.
Дай жа, Божа, родным нашым, дзецям
Роднай мове оды зноў спяваць!

## МАЛЕНЬКІ ВЕРШЫК

Калі да шлюбу кліча хлопец дзеўку,
А тая верціць, нібы вол хвастом,
Што, быццам, рана!
Быццам – маладзенька!
Тай не гатова шчэ за “шлюбны стол”...
Цярпення трэба хлопцу набірацца,
Каб першая прамовіла:
“Люблю...”

А потым у сваёй душы дазнацца:
“Ці ёсць тут сэнс,
З такой ісці “у шлюб”?

## ДА ЛАТЭРЭІ НА КІРМАШЫ

Дзед прыехаў на кірмаш
Са сваёю бабай!
Грошык вынь – білецік маш, –
Будзе грэць не слаба.
Як жа быць на кірмашы
Ды без латэрэі?
А прызы – ой, ад душы!
Ах! Як сэрца грэюць!
Час прыйшоў распачынаць
Розыгрыш білетаў.
Можа нешта атрымаць,
Хто пайшоў на гэта.
Рыбка – з Росі.
З Лозаў – сыр!
З птушкафермы – яйкі!
Бульба з Воўпы – для красы
І для “смакатайкі”!
Мёд – з Няверавічаў вам!
Бурачок – з Талькоўцаў!
Падыходзь, дзівіся сам:
Счырванеў, як сонца!
Яшчэ з Шылавіч – мука!
З Вярэек – капуста!
Хай шчаслівая рука
Зробіць дома густа!





**_ЮРЫЙ МЕЛЬНІКАЎ_**

*Нарадзіўся ў Мінску 10 лістапада 1976 года. Закончыў сярэднюю школу № 69 у 1994 годзе. Працягваў навучанне ў сталічным Дзяржаўным педагагічным каледжы № 1, дзе атрымаў кваліфікацыю “настаўнік беларускай мовы і літаратуры” ў 1997 годзе. Далей вучыўся на вячэрнім аддзяленні факультэта беларускай філалогіі і культуры ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка да 2001 года, дзе атрымаў кваліфікацыю “выкладчык беларускай мовы і літаратуры”.*

*Працаваў педагогам-арганізатарам ў мінскай сярэдняй школе № 86, настаўнікаі беларускай мовы і літаратуры, супрацоўнікам паштовага аддзялення, загадчыкам гаспадаркі на прыватным прадпрыемстве. На дадзены момант працуе кладаўшчыком у камерцыйнай фірме.*

*Размяшчаў свае творы на старонках газет “Раніца”, “Наша Слова”, “Наша Ніва”, “Настаўніцкая газета”, “Беларуская Ніва”, “Народная газета”, “Минский курьер”, часопісаў “Вясёлка”, “Першацвет”, “Роднае Слова”, у альманаху “Панядзелак”. Публікаваў навуковыя матэрыялы ў зборніку “Святое Евангелле. Праблемы перакладу на беларускую мову”. Аўтар кнігі прозы “Калі сны здзяйсняюцца…”*

## КАЛЕКЦЫЯ ПРЫЗНАННЯЎ

*Апавяданне*

*В.І.*

Вольга сціпла радавалася жыццю, збег абставінаў якога выглядаў паступова і разважліва, а прыступкі лесвіцы ўдачы набліжалі яе да здзяйснення самых неверагодных мрояў і дасягальных мэтаў. Дзяўчына спакойна аглядалася навокал, добра асэнсоўваючы безліч здольнасцяў і талентаў, якімі яе ўзнагародзіў Госпадзь Бог.

Наша гераіня заўсёды заставалася аптымісткай: атэстат з адзнакай і залатым медалём за сярэднюю школу, чырвоны дыплом за навучанне ў Эканамічным універсітэце, набыты сумленнай руплівай

працай, выдатна абароненая дысертацыя па простых і ўскосных падатках са звычайных грамадзян, малады ды вясёлы калектыў, у якім Вользе пашанцавала стаць намесніцай галоўнага бухгалтара адной салiднай арганізацыі.

Канешне, знешне прыцягальная і абаяльная, кандыдат эканамічных навук ведала і цудоўна размаўляла на некалькіх замежных мовах, у прыватнасці, на англійскай, французскай, іспанскай, польскай. Не абыходзіла сваёй пяшчотнай увагай беларускую, украінскую, рускую. З незвычайным цярпеннем магла растлумачыць зацікаўленым работнікам прадпрыемства нюансы крэдытавання праз банк, колькі і каму налічана заробку і прэміяльных, як правільна размінуцца з падаткавікамі і іншымі рэвізорамі, – адным словам, адчуваўся сапраўдны прафесіяналізм у яе адмысловай дзейнасці.

Яна вылучалася адметным розумам, не шкадавала часу на зверку лічбаў у плацёжках, зрэдку кансультавала былых выпускнікоў ВНУ па эканамічных пытаннях...

Таксама ў вольны час Волечка цікавілася класічнай літаратурай і фалькларыстыкай. Яе захапленнем была кніга Яна Баршчэўскага “Шляхціц Завальня”, “Альбом” Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, прачытала яна багата і іншых твораў таямнічага XIX стагоддзя...

Заўважым, знешнасць вабнай дзяўчыны не пакідала да яе абыякавымі аднакласнікаў, аднакурснікаў, калег па службе, сяброў. Здавалася, ад ласкавай усмешкі зіхацела сонейка, ад мяккага голасу сыходзіла дабрыня, пасля яе палымянага позірку хлопцы і мужчыны вылечваліся значна лепш, чым пасля агляду дактароў. Гнуткі стан адлюстроўваў сапраўднае хараство маладосці, сваімі зграбнымі, пяшчотнымі ручкамі яна не саромелася працаваць як з рознымі фінансавымі паперамі, так і выраблядь цудоўныя шэдэўры на кухні.

Яна таксама збірала кампліменты і прызнанні. Яшчэ са школьнага часу завяла сшытак, куды запісвала тыя шчырыя словы ад хлопцаў. Канешне, не аднойчы прапанавала на чыстых аркушыках пакінуць свае думкі маладым людзям, якія ёй чымсьці спадабаліся. Зразумела, калекцыя Вольгі пакрысе папаўнялася новымі занатоўкамі – дзе вершаванай мовай, дзе празаічнай. Вытрымкі з лістоў займалі пачэснае месца там. Тонкія сшытачкі ахайна падшываліся ў агульныя. З цягам часу лік рукапісных незвычайных зборнічкаў мог пацягнуць ужо на





сур’ёзны фаліянт. Як ні дзіўна, ад гэтага трапяткога занятку Оля не адмаўлялася. Часам яе прыяцелькі скептычна ставіліся да таго, што ёй няма куды траціць вольныя ад працы і вучобы хвіліны...

– Навошта табе гэтая няўдзячнасць? Усё роўна твае мемуары не пабачаць чытача!

– Ці не паб’юцца за цябе твае прыхільнікі? Раптам прачытаюць, і чакай тады хвалі рэўнасці, непаразумення!

– Не перажывайце, усё будзе добра, калісьці пераканаецеся, што я раблю правільныя крокі, – абаранялася дзяўчына. – Крыху цярпення, і ўсё будзе выдатна!

Сапраўды, Вольгу ніколі не пакідаў добры настрой. У дзяўчыны аптымізм ярчэў загадкавай вясёлкай. Наша гераіня ведала: запісаў прызнанняў не варта спыняць, а лепш пацяху займацца любімай справай. Акрамя таго, прыгажуня з цягам часу збіралася апублікаваць вынікі фальклорных здабыткаў. Калі пасміхнецца шанец, тады пад адной вокладкай, калі ўзнікнуць часовыя нязручнасці, можна і па частках. Пачатак пакладзены, а што да цяжкасцяў, каго ў іх не бывае, усё роўна яна іх адолее. Волечка вырашыла яшчэ раз сама праверыць магчымыя хібы, каб потым даць пачытаць рукапіс дасведчанаму філолагу. Зразумела, яна марыла адносна будучага выдавецкага праекту прыкладна так: няхай прадмову да зборніка кампліментаў напіша хтосьці больш-менш знакаміты ці свядомы прафесіянал у галіне літаратуры. Тут пекная бухгалтарка баялася верагодных памылак ці звычайнага ліха, павярхоўнасці аглабельнай крытыкі ці іншых нязручнасцяў.

Таксама кандыдат навук шукала адказу на некалькі цяжкіх пытанняў: ці пакідаць аўтарства ў прызнаннях, ці прыводзіць прыклады пяшчоты, не называючы імёны і прозвішчы тых хлапцоў і мужчын, што яе падтрымлівалі. У адным выпадку калекцыя шчырых слоў будзе заснавана на фальклорным матэрыяле, у іншым – на літаратурным. Абодва варыянты яе задавальнялі. Канешне, ласкавая дзяўчына чула драматычныя гісторыі аб драпежніках цэнзурных, якія маглі зарубіць і загубіць самы цудоўны рукапіс сваімі гарачымі абцугамі. Колькі празаікаў, паэтаў, драматургаў, гумарыстаў гэткія доўбні палохалі без усялякіх прычын. Аднак натхненне інтэлігенцыі толькі павялічвалася і творчасць не спынялася.

Дзіўна, мала хто згаджаўся ўзяцца за дапамогу нашай гераіні ў такой пачэснай справе... Оля ўжо збіралася пакласці ў шуфляду ўласныя задумы, пачакаць да пэўнага часу, каб ёй паспрыяла. Спяшыць не заўсёды трэба. Але марудзіць не варта. Раптам яе захапіла цудоўная ідэя: спачатку шукаць падтрымку на працы, а далей – як пашанцуе.

Яна паціху прыглядалася да калег па працы, да работнікаў з іншых аддзелаў і служб прадпрыемства. Волечка няспешным шляхам даведалася, што ў Сяргея, маладога чалавека з гаспадарчага аддзела, два дыпломы, адзін з якіх філалагічны, вопыт працы ў педагогіцы, навуковай і творчай дзейнасці, што хлапец мае публікацыі, паціху піша прозу... Яшчэ і паслухмяны халасцяк, што не часта сустрэнеш. Канешне, сціпласць Сяржука часта была прычынай загадкавых дзявочых усмешак, задум, фантазій і артылерыйскай атакі таямнічымі вочкамі. Сапраўды, ад такой павышанай увагі прыгожай паловы чалавецтва хлапцы і мужчыны толькі лепей разважаюць і дасканала рупяцца, у якіх экстрэмальных умовах яны не апынуліся б.

Канешне, дзяўчына ведала, што малады чалавек зможа вырашыць яе, здавалася, неверагодна заблытаную праблему. Праўда, калі Сяргей аддаў ёй месячную справаздачу па гаспадарцы, красуня прыкмеціла бездакорнае выкананне і правільныя лічбы. Адчувалася, што хлапец не баіцца адказнасці і цяжару праблем. Не самотнік, не гуляка, не выпівоха, не гультай, не авантурнік...

А Сяржук у шапку не спаў, а час ад часу ўзнагароджваў Волечку падарункамі, прычым рабіў гэта з эстэтычным густам і шчырасцю. Нейкім чынам дазнаўся наш герой, што бухгалтарка пакуль яшчэ не замужняя. Значыць, шанец ёсць удалы сябе паказаць ды пачуцці незгасальныя праявіць...

– Сярожа, трэба Ваша парада, мяне палохае...

– Оля, гатоў дапамагчы Вам, толькі скажыце, у якой галіне. Не хвалюйцеся.

– Ці хопіць часу напісаць прадмову да навукова-папулярнага зборніка, знайсці потым рэцэнзентаў, а далей выдаць...

– Калі дазволіце пагартаць Ваш тэкст, тады можна рухацца наперад.





– Мой дружа, тэкст, мабыць, мяне датычыць, толькі аўтараў багата...

– Не разумею. Нейкі парадокс.

– У жанры лірычным, па форме – прызнанне, па змесце – сяброўскія зычэнні.

– Цікава. Такога яшчэ нідзе не змяшчалі.

Малады філолаг з радасцю ўзяўся за адмысловую тэму. Мінулі тры тыдні, і прадмова была складзена на адным дыханні. Праўда, Сяргей без асаблівых турботаў і клопатаў пераканаўся ў сардэчнай цяплыні Вольгі.

– Колькі табе заплаціць за руплівасць? – зацікавілася дзяўчына.

– Грошы браць не магу, гонар не дазваляе... Я цябе кахаю! – прызнаўся ёй хлопец. – Нядаўна размаўляў з будучымі рэцэнзентамі: адзін – прафесар літаратуры з Універсітэта, другі – акадэмік з Акадэміі навук. Спадзяюся, напішуць пазітыў, што і патрэбна было даказаць...

– Ты, Сярожка, за мяне так багата выканаў, я перад табой у неаплатным даўгу. Дзякуй за першыя крокі да неверагоднага пачуцця радасці!

– Жадаю зрабіць цябе шчаслівай. Думаю і разважаю, як...

Дзякуй Богу, рэцэнзенты станоўча паставіліся да творчых задумаў бухгалтаркі Вольгі. Водгукі былі складзены ў двух варыянтах: ці мала якія праблемы ўзнікнуць далей, лепш падрыхтавацца да іх, чым пакутваць ад турботаў.

Нечападзяванка прыляцела, адкуль яе не чакалі ні дзяўчына, ні хлопец. Не кожнае выдавецтва згаджалася рэалізаваць цудоўную ідэю Волечкі. Адмаўлялі, не тлумачылі прычын, лічылі калекцыю прызнанняў у гонар лепшых чалавечых пачуццяў дзявочай фантазіяй, а не рэалістычным, навукова-папулярным творам. Адзін нейкі звышпільны наглядчык адкрыта заявіў:

– Калі апублікаваць асобнай кнігай тое, што Вы сабралі, будуць ў сучаснай літаратуры і грамадскім жыцці Беларусі рэвалюцыі, бунты і грамадзянская вайна адначасова. Вас цікавяць наступствы?

Сяржук заступіўся за сяброўку і калегу:

– Тады чакайце ад мяне па неапублікаваным матэрыяле дысертацыю. Спяшацца не будзем, паглядзім, на чыім баку перамога. Калі

жанр прызнання лічыць небяспечным, тады маем справу з Вашай недасведчанасцю, вартай гумарэскі для “Вожыка”!

Вольга не засталася абыякавай да размовы:

– Абяцанкі аб падтрымцы здольнай моладзі чуем на кожным кроку. Увачавідкі – усё наадварот.

Палагоднеў адказны чалавек, сцішыўся, даў дазвол на друк на першы варыянт. Няхай сабе з боем, з цяжкасцю, аднак нашы героі дасягнулі таго, пра што марылі.

Доўга думалі хлопец і дзяўчына над назвай зборніка. Прыйшлі да высновы: “Калекцыя прызнанняў. Фальклорныя запісы”. Канешне, давялося бухгалтарцы Вользе яшчэ тры-чатыры месяцы прычакаць, калі цалкам усе праблемы знікнуць у нябыце. Некалькі дзён набірала тэкст на дыск, Сярожу даверыла цалкам перадвыдавецкую падрыхтоўку. Сябар не спалохаўся – ён дастойна давёў да ладу ўсялякія складанасці.

Гартаючы аркушы карэктуры, наша гераіня думала аб будучыні: “Здавалася, лёгка назапасіць кампліменты, ды цяжка іх пусціць у свет, да чытачоў... Запісаў багата... Так я ўдзячна Сержуку за тэкст прадмовы, за знаных рэцэнзентаў, ды і рэдактара ён таксама парэкамендаваў. Хлопца шкада: трэба яго пазбавіць пачуцця адзіноты, інакш яшчэ болей цяжкасцяў сустрэне. Здрада яму немагчыма. Адчуваю: у маім сэрцы да яго нешта вялікае, шчымліва-вясёлае, раднае, і тым хачу падзяліцца з ім. Толькі з ім...”

Малады чалавек паспяваў як па службе, так і выратоўваць з бяды розных небарак, не здатных да навукі. Не саромеўся абавязкаў, калі трэба падставіць плячо сваё, каб гаспадарка квітнела. Пры неабходнасці мог і грузчыка падмяніць, і дэталі экспедытарства засвоіць...

У вольныя хвіліны ён разважаў: “Доўга гляджу на Волечку. Цікава з ёй. Інтэлектуалка, красуня, разумніца. Майстрыца з залатымі рукамі і трапяткой душой. Ды і ў філалогіі зрабіла першыя крокі, і адразу ўдалыя. Можа, Божанька тут рады дасць. На яго спадзяюся, каб даслаў мне дбайную жонку...”

Нейкім чынам думкі нашых герояў вузельчыкамі спагады спляліся. Цяпер яны разам крочуць па віхурным жыцці, ратуюць адно аднаго ды хваласпеў маладосці ствараюць...





## КАСЬБА

*Эсэ*

Нядаўна бачыў рэкламу, дзе вялася гаворка пра тое, што звычайную касу-дзюймоўку, ці літоўку, варта аддаць на захаванне ў музей. Спрэчнае пытанне! Здзівіла мяне гэтая тэма, пакольккі каса ў любога разумнага гаспадара ляжыць не далёка: у куце ці пад дашкам, – і заўжды скарыстоўваецца па прызначэнні.

Прагрэс у тэхніцы ў XXI стагоддзі паспяхова рушыць наперад... Не супраць я электракасы ці больш магутнай яе сястры – бензакасы. Згаданыя вышэй рэчы ўзаемадапаўняюць адна адну і могуць дзейнічаць паасобку. Іх магчымасці нельга не заўважыць і недаацэніць. Прынцып дзеяння ўсё роўна адзін. Маючы досвед з літоўкай, нескладана засвоіць і косы з электра- і бензарухавіком. Сапраўды, горш не будзе. Вядома, цяпер энерганосьбіты занадта дарагія, аднак ручная праца шанавалася ва ўсе часы і, адпаведна, аплочвалася. Акрамя ўсяго, дзякуючы касьбе і іншым гаспадарчым заняткам, з’яўляецца натхненне ў беларусаў. Апошняе ўзнікае з Божай ласкі і пад уплывам астатніх фактараў, пералік і характарыстыка якіх зойме багата часу і месца на паперы.

Для мяне касьба звычайнай касой – сапраўдная мужчынская праца, ад якой ніколі не адмаўляюся і якой абсалютна не саромеюся, не цураюся. Гэта і выдатная фізкультура, пасля чаго набіраюць моц мышцы, і жыццёвая неабходнасць: навошта кагосьці прасіць, калі і сам спраўляюся, – можа, не надта хутка. Але спяшацца – людзей смяшыць. У дадзеным выпадку якасць і хуткасць суадносныя. Адказнасць тут вялікая, аспрэчваць згаданую тэзу няма прычын, а задавальненне багата: цудоўны настрой, амаль дасканалы парадак на лецішчы ды вопыт лішнім не бывае.

Хочацца ўспомніць гады майго дзяцінства і юнацтва. Вельмі мне падабалася, як мужчыны знаходзяць агульную мову з гэтай прыладай. Адносна спакойна і ўпэўнена ў касавіцу ладкуюць побач з уласнымі сядзібамі. Ад кожнага ўзмаху касы трава кладзецца роўнымі радкамі. А радкі падобны на доўгія шнуры, цягнуцца ўздоўж і ўшыркі, а палеткі чысцюткія і дыхае водарамі наваколле. Дзесьці

ў трынаццаць-чатырнаццаць год упершыню паспрабаваў, як трэба правільна касіць. Адразу прыйшлося цяжкавата, аднак надзею не страціў. Першая спроба не заўсёды бывае ўдалай. Імкнуцца да дасканаласці ніколі позна не бывае.

Вельмі я ўдзячны дзядулі майго сябра – Івану Дзмітрыевічу Мікалаеву. У шаноўнага суседа гадаваліся трусы, дзесятак ці крыху болей. А колькі мяхоў сена з’ядалі гэткія блізкія сваякі лясных зайцоў, аднаму Богу хіба толькі вядома. Таму Іван Дзмітрыевіч і яго ўнук Сяргей, мой лепшы сябар дзяцінства, а таксама і аўтар гэткіх успамінаў, прывязвалі да рамы ровараў косы і накіроўваліся ў ваколіцы Падгор’я за травой. Хвілін праз дваццаць-трыццаць, калісьці і крыху меней, і мы на месцы. Канешне, рэльеф мясцовасці быў розны: дзе ўзгоркі, дзе роўнядзь, а дзе іх мешаніна. Аднак адступаць няма куды: у характары беларуса цяжкасці жыццёвыя прыходзяць і мінаюць, але іх палохацца не варта. Сілай у тры касы вельмі хутка патрэбныя мяхі гатовы. Помню, як Іван Дзмітрыевіч жартаваў: “Навошта, каб мае зайцы з галадухі лапкі выцягнулі, зробім ім запас харчоў і на сняданак, і на абед, і на вячэру! Няхай сабе жывуць і  памнажаюцца!” На адваротным шляху веласіпеды важаць значна болей: разам з косамі вязем дадому і сена ў мяхах. Прыемныя адчуванні і радасць ад паездкі надоўга застаюцца ў нашых сэрцах.

Сама касьба нагадвае мне атлетычную гімнастыку ў найлепшым выглядзе. Кожны новы ўзмах не дае розным групам мышцаў расслабіцца, паслядоўнасць рухаў касцоў дазваляе пазбегнуць букету хваробаў у будучыні. Канешне, адразу вялікія аб’ёмы касавіцы ў непадрыхтаванага чалавека могуць выклікаць ныючы боль у спіне і плячах, незалежна ад узросту і фізічнай падрыхтоўкі. Аднак не надта любяць касцоў хваробы – бягуць напрасткі да гультаёў, лайдакоў, пустадомкаў, зломкаў...

Зразумела, раз-пораз касу трэба вастрыць. Перакульваеш яе дагары нагамі, абавязкова робячы ўпор у зямлю. Ахайна водзіш мянташкай па лязу, з абодвух бакоў загастраеш. Тут таксама дзейнічае прынцып: не падмажаш, не паедзеш. Лепш карыстацца заўсёды вострай касой, чым тупой прыладай. Апошняе потым бачна па пракосе: незавостранай касой куды горшы вынік працы, а якасць здзіўляе і





пакідае ў вялікім роздуме. Раз закрануў абслугоўванне касы, трэба быць уважлівым да пяткі, якая пры няўважлівасці можа наладзіць уцёкі, а потым шмат часу пойдзе на аднаўленне яе. Навошта лішні галаўны боль? Лепш знайсці калоду, адной рукой трымаеш касу, другой – малаток, некалькі ўдараў якім ставяць пятку на адпаведнае ёй месца, каб не брыкалася і не свавольнічала. Хапае праблемаў і з ручкай касы, што можа быць нетрывала замацавана. Тады не хопіць часу, каб паспяхова адолець пракос. Каб яе давесці да ладу, патрэбна хвілін дзесяць-пятнаццаць пацягацца, але потым варта не хвалявацца. Ёсць яшчэ праблема з ёй: калі лязо не наладжана, як мае быць. На роўнай паверхні стала, варштата, у каго што маецца ў гаспадарцы, лязо прымацоўваецца ў спецыяльнае прыставанне, падобнае на ціскі, і ахайна малатком выпраўляецца. Працэдура гэтая нескладаная, парады вопытных майстроў таксама не страцілі карысці і ў XXI стагоддзі...

Пах і водар толькі скошанага сена паляпшаюць здароўе чалавека шматкроць.

Сцягванне сена ў копны і стажкі – занятак дужа спакойны, хіба патрабуе вялікага цярпення і ўмельства трымаць у руках граблі, досыць лёгкі ў карыстанні прадмет. Колькі хвілін  і гадзін руплівасці, і сенакос завершаны...

Калі ўзгадаць мінуўшчыну Роднага краю, без чаго нельга ўявіць будучыню, выснова лагічна просіцца сама на паперу. Няма нічога дзіўнага ў такім гістарычным факце: асноўнымі відамі зброі ў паўстаннях за волю, свабоду, незалежнасць служылі косы, вілы, сякеры, граблі, стрэльбы і іншы рыштунак, што да пары, да часу, прымяняецца ў адносна мірных прафесіях любой эпохі, але хутка становіцца рэальнай пагрозай для размаітых акупантаў. Няма прычын рушыць на беларусаў з мячом: можна неспадзявана і зухавата атрымаць па карку. Так што не трэба потым скардзіцца на ваяўнічы характар нашага народа.

Упэўнены: касьба не знікне з аграрных і культурных традыцый беларускай нацыі. Эвалюцыя касы таксама будзе працягнута. У мяне няма нагоды для сумневу...

## ТАЯМНІЦЫ ПАЧУЦЦЯЎ

*Кароткае апавяданне*

Водар харaства акрыляе нашы сэрцы, кожная хвіліна размовы злучае нашы мяцежныя душы. Пастутова вечар адкрывае таямніцы самых шчырых пачуццяў. Непаўторныя спадзяванні даюць адчуванне пяшчотнай раніцы здзейсніць неверагодны цуд маладосці, трапяткой любові, чароўнага, мілагучнага і вернага кахання.

Колькі памылковых сцяжынак было перасечана, колькі расчаравання давялося агарнуць, каб знайсці цябе, маю сціплую беларускую разумніцу, прыгажуню і ласкавую сяброўку... Недарэмна шматкроць прасіў Госпада Бога, каб ён мне даслаў шчырую дзяўчыну, з якой разам адолеем жыццёвыя нягоды, няўдачы і ланцужкі праблемаў.

На змену доўгаму чаканню, размаітым выпрабаванням, шэрагу пакутаў, горычы і болю адзіноцтва няспешнай хадою наблізілася шчасце, згода, цярпенне і дабрабыт. Каханая, як без цябе самотна і цяжка...

Думкі хіба скіраваны, дзе на добры лад зарабіць капейчыну, паратунак ад цяжкасцяў паглынаецца самаадданай працай, але ненадоўга.

Тваё з’яўленне ў маім жыцці – не збег абставінаў, не выпадковасць лёсу ці нейкая там недарэчнасць, а заканамернасць, памножаная на шчырасць, досвед, аптымізм, бадзёрасць духу і незвычайнае перакананне на блізкую перамогу над адзіноцтвам.

Адчуваю радасць, нават зухаватасць, някідкую, знаходзячыся побач з табой, дарагая, пяшчотная, мілая... Ты натхняеш мяне, спагадліва ставішся да маіх меркаванняў, пазіцый, адгукаешся гронкамі цудоўных вершаў і здзіўляеш безліччу фатаграфій...

А нашыя спатканні падобныя на гамонку духавога аркестру, дзе паважліва гучаць альт і гарэзніца-жалейка, дзе трубы ўзгадваюць мелодыі дзівака Мендэльсона, дзе ззяе адказнасць за далейшыя крокі...

Гэта сапраўднае каханне, якому мы давяраем, як адно аднаму... Мы давяраем гэтай любові ўсе нашы планы...

Няхай жа здзейсняцца ў рэальнасці тыя неверагодна-бласлаўлёныя задумы, што плаўна пераводзяць жаночае і мужчынскае адзіноцтва ў трывалае сямейнае шчасце.





**ЛЮДМИЛА МИХЕЙКИНА**

*Родилась 18 марта 1955 года в Минске. В 1981 году окончила Белорусский государственный институт народного хозяйства им. В.В. Куйбышева по специальности “планирование промышленности”, получив квалификацию “экономист”. С 1972 по 2010 годы работала на Минском моторном заводе. Занимала должности распреда в инструментальном цеху, инженера-нормировщика, инженера-технолога, экономиста, начальника бюро ценообразования, заместителя начальника планово-экономического отдела. С юности увлекается литературой, пишет стихи и прозу. Автор книг: “Дорогами любви” (2011 год: проза), “Такая большая короткая жизнь” (2011 год: стихи), “Неизведанное тепло” (2012 год: проза).*

## ЗАБЫТЫЕ УДОЧКИ

*Рассказ*

В выходной день муж и жена собирались на дачу. Муж пригнал машину со стоянки и поставил её у подъезда. Жена наполнила сумки продуктами, прочими необходимыми мелочами, одела спортивный костюм и кроссовки, аккуратно уложила в пакет сменную майку для мужа и постиранное после рыбалки любимое его трико. Но несмотря на внимательное и заботливое отношение к нему, она забыла одну очень важную вещь, из-за которой и произошла эта удивительная история.

Охватив четырьмя руками многочисленную поклажу, пара вышла из квартиры и, спустившись с третьего этажа вниз, направилась к машине.

Муж, укладывая сумки в багажник, обнаружил вдруг, что среди прочих вещей нет его удочек. Ему пришлось снова подняться к себе на этаж, а жена осталась дожидаться его в машине. С терпением и любовью относился он к супруге, поэтому не стал обвинять ответственную за сборы половину в таком серьезном промахе.

Из подъезда вышла соседка. Женщина решила выехать в центр города, чтобы пройти по магазинам. Пришла пора сменить свой про-

шлогодний гардероб. Она очень внимательно следила за капризами моды и старалась соответствовать. Простучав каблучками по асфальту, она поздоровалась с сидевшей в машине женщиной, приветливо взмахнув округлой ручкой с разноцветными коготками, сверкнув колечками. Та открыла дверцу и поинтересовалась, куда она направляется, и поскольку её путь совпадал с движением машины, предложила подвести до первого магазина. Соседка с удовольствием согласилась и поудобнее устроилась на мягком сидении. За короткое время, пока не было мужа, жена узнала от нее о множестве удивительных событий, произошедших в их доме, а также восхитилась ярко-рыжим цветом ее волос, окрашенных средством из последнего рекламного ролика.

А в это время муж дома искал удочки. Он не сразу нашёл их. В последний раз, когда он отгонял машину на стоянку, место им определила жена. Измученный догадками, он очень обрадовался, когда, наконец, обнаружил их на лоджии за шкафом и, поставив в углу коридора, забежал на кухню, чтобы стаканом воды снять стресс, полученный в процессе активного поиска. Мимоходом он выглянул в окно, где его взору открылась возмутительная картина. Большая рыжая кошка, взобравшись на багажник машины, полностью покорив ее высоту, вальяжно разлеглась на крыше в лучах утреннего солнышка. Играючи, она водила коготками по гладкой краске автомобиля, словно кого-то ловила там. Муж, что было мочи, крикнул в открытую форточку:

– Катя, убери с машины рыжую кошку, – и, подхватив удочки, опрометью бросился по ступенькам вниз.

Женщины переглянулись. Резко открыв дверцу, соседка выскочила из салона и, подняв вверх блестящие перламутровые веки, метнула в окно молниеносный взгляд:

– А с виду приличный мужчина, – и под воздействием сильных эмоций направилась не в сторону остановки, а в сторону подъезда.

Не далее, как вчера вечером, этот невежа забыл ключи от квартиры и коротал время до прихода своей жены у неё, сидя на кухне и попивая чай, а она заваривала ему крепкий напиток и была сама любезность, предложила ему даже рюмочку чего-нибудь посущественнее, но мужчина, как ни странно, отказался, с нетерпением выглядывая из окна на улицу, где должна была появиться его жена. Соседка была одинокой и привлекательной женщиной, но сосед почему-то не замечал ее явных преимуществ и неотразимого халатика расцветки "калибри". Он выпил три больших кружки чая и не проронил ни одного комплимента, а когда увидел через окно свою простоволосую жену с развевающимися волосами – не чета пышному соседкиному произведению искусства необычного цвета, – то словно совсем ошалел, вскочил с табуретки и бросился на выход.





– А спасибо?! – возмущенно крикнула ему вдогонку Зина, так звали соседку, определив свои округлые кулачки с блестящими коготками в бока халатика расцветки "калибри".

– Ой, Зин, конечно же, спасибо, извини.

Сосед выходил из подъезда, придерживая удочки одной рукой и открывая дверь другой. Первое, что он увидел в нескольких шагах от себя – очень даже нелюбезное лицо соседки. Угрожающе сверкая искусно выведенными ярким сердечком губками, она гневно бросила ему в лицо:

– Это я рыжая кошка? А ты кто?

Не давая мужчине опомниться и одновременно подыскивая подходящие слова, она сделала еще один бросок:

– Пёс верный. Вот ты кто.

Надо сказать, когда соседка Зинка была в сердцах, она говорила без церемоний и не искала слишком долго слов в своем словарном запасе, поэтому это выражение в её устах прозвучало почти как комплимент, но кошка, сидевшая на крыше автомобиля, не была знакома с Зинкой, поэтому от таких слов молниеносно очнулась и стремглав бросилась с крыши вниз. Слово "верный" было ей незнакомо, не кошачье это дело, а вот слово "пёс" она хорошенько знала. Рыжеволосая женщина быстро исчезла за углом дома вслед за кошкой того же окраса. Расстроенные супруги бросились на машине вслед за ней, опередив подъезжающий к остановке троллейбус и остановившись у обочины дороги. Мужчина, с улицы наблюдавший за погоней, попытался им помочь и задержал яркую женщину, но, получив оплеуху, выпустил её из рук, после чего та быстро скрылась в открытой дверце троллейбуса. Примирение пришлось отложить на более отдаленное время.

***ЛЮДМІЛА СІВАЛОБАВА***

*Нарадзілася 26 студзеня 1935 года ў гарадскім пасёлку Церахаўка Добрушскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла Сельскагаспадарчую акадэмію ў горадзе Горкі Магілёўскай вобласці. У школьныя і студэнцкія гады актыўна ўдзельнічала ў самых розных літаратурных суполках. У Мінску жыве з 1968 года. Працавала на розных пасадах у некалькіх сталічных арганізацыях і на прадпрыемствах. У цяперашні час знаходзіцца на пенсіі. Захоўвае вернасць літаратурнаму слову. Піша на рускай і беларускай мовах. У сваёй творчасці аддае перавагу кароткаму празаічнаму жанру – навэле. Аўтарка кніг: "Новеллы" (2011 год: проза), "Сюрприз" (2012 год: проза).*

## ВЯСЕЛЛЕ

Няма, бадай, ва ўсім свеце ніводнага чалавека, які б не ведаў, альбо сам не сутыкаўся з гэтым самым урачыстым святам у жыцці. Вяселле прыходзіць амаль да кожнага з нас у маладым, альбо больш сталым узросце.

Дык вось, у адным абласным горадзе нашае краіны на пачатку лета адбывалася вяселле, якое было незвычайным, бо заручаліся шлюбам дзеці высокіх асоб гэтага горада. Нявеста па імені Яніна была дачкой самаго мэра, а жаніх Алесь – сынам буйнога прадпрымальніка Сямёна Пятровіча. Так здарылася, што Яніне і Алесю не прыйшлося доўга шукаць адзін аднаго, бо яны навучаліся ў адным універсітэце і ўжо цэлы год сябравалі.

Нездарма народная мудрасць спавядае, што шлюбы заключаюцца на нябёсах, а расхёбваем мы іх на зямлі. І вось гэтая маладая ўлюбёная пара праз год спусцілася з нябёсаў, і аднойчы, з нагоды свайго дня народзінаў, Алесь прывёў да сваёй хаты Яніну і ва ўрачыстых абставінах аб'явіў сваім бацькам, што хоча з ёй ажаніцца.

Амаль адразу пачалася перадшлюбная мітусня. Бацькі маладых (у народзе – сваты) хутка пазнаёміліся паміж сабой і пачалі дамаўляцца аб усіх далейшых дзеяннях у святочных вясельных абставінах. Можна сказаць, што бацькам маладых у нейкім сэнсе пашанцавала: адных задавольвала паходжанне жаніха, а другіх – нявесты.





Маладыя ўласнаручна развозілі і рассылалі запрашэнні на вяселле, афармленыя на вельмі прыгожых паштоўках, у якіх былі пазначаны дзень, час, месца і праграма правядзення ўрачыстасці. Праграма ўрачыстага мерапрыемства была даволі змястоўная: зранку – праводзіны жаніха да нявесты і выкуп яе, апоўдні – цэрымонія рэгістрацыі шлюбу ў гарадской ратушы, на адвячорку – банкет у найбуйнейшым нядаўна пабудаваным рэстаране "Алімпія".

Канешне ж, самая працяглая і цікавая частка вяселля – гэта банкет. Запрошаных гасцей было шмат, мо не адна сотня. Сваякі, сябры, добрыя знаёмыя, моладзь ледзьве размясціліся за некалькімі вялікімі сталамі, расстаўленымі па перыметру ў агромністай авальнай зале рэстарану.

Але пачнем спачатку. Да прызначанага часу каля "Алімпіі" пачалі збірацца запрошаныя госці. Адны прыязджалі на ўласных машынах, другія дабіраліся грамадскім транспартам, а некаторыя, нават, – пешшу. Вось і дзве кабеты сталага ўзросту выйшлі з дому і вырашылі крышку пад'ехаць на таксі, бо былі ў абутку на высокіх абцасах і ледзь трымаліся на нагах. Амаль перад самай "Алімпіяй" яны спынілі таксіста. "Колькі?" – спытала старэйшая кабета. "Пяцьдзесят тысяч," – адказаў таксіст. "У мяне столькі няма," – сказала старэйшая кабета, а малодшая паморшчылася і дастала грошы са словамі: "Сволач ты, а не таксіст! Колькі ж ты нас вёз? Пару прыпынкаў усяго!" Але таксіст усё роўна схапаў грошы. А кабеты, выйшаўшы з машыны, кульгаючы і падтрымліваючы адна другую, направіліся да параднага ўваходу ў рэстаран. Гэты былі старыя цёткі жаніха Ганна і Вольга, якім вельмі падабалася хадзіць у госці і на розныя святочныя мерапрыемствы.

На шырокім ганку "Алімпіі" сабраўся ўжо цэлы натоўп. Усе чакалі прыезду маладых. Кабеты разглядалі адна другую, ацэньвалі вопратку і знешні выгляд кожнай, мужчыны з дзелавым выглядам тусаваліся ў старонцы.

Вось як бы знянацку падляцеў да цэнтральнага ўваходу белы лімузін, увесь аблеплены гірляндамі рознакаляровых шароў. З яго,

не спяшаючыся, выйшаў юнак высокага росту ў парадным светлым касцюме, нібыта герой з галівудскага фільму. Гэта і быў сам жаніх Алесь. Потым ён дапамог выбрацца з лімузіна нявесце Яніне, падтрымліваючы яе за ручку ў доўгай белай пальчатцы. Доўгая фата цалкам закрывала твар дзяўчыны. Маладыя падняліся на ганак, а дзяўчаты, якія стаялі паабапал, пачалі абсыпаць улюбёную шлюбную пару пялёсткамі руж.

З залы пачалі даносіцца гукі вясельнага маршу Мендэльсона. Маладыя накіраваліся на троннае месца ў цэнтральнай частцы залы, упрыгожанае вышытымі рушнікамі. Як толькі яны ўладкаваліся, пачалася афіцыйная частка ўрачыстасці – віншаванне маладых. Тамада пачаў выклікаць удзельнікаў свята па спісе, пачынаючы з родных і блізкіх: “Хросная маці жаніха і адначасова ягоная цётка Ганна, а таксама ягоная цётка Вольга! Дзе б вы ні былі, ды сюды прыбылі!” Ганна з Вольгай хуценька накіравалія да Алесіка з Янінкай, адна следам за другой, кожная трымаючы ў адной руцэ па канверту з “зялёнымі”, а ў другой – па букету кветак. Затым выклікалі Янінкіну бабулю, якая прыехала з сяла. Бабуля прывезла маладым пляцёны кошык, абвязаны зверху плотнай хусцінай. “Дзеткі родныя! – сказала старая. – Жывіце ў згодзе і весяліцеся. Жадаю, каб кураняткі вяліся, пеўнікі радзіліся, на курачак садзіліся!” – урачыста прамовіла бабка Марыля і паставіла кошык на стол, што стаяў перад маладымі. На гэтым стале ўжо стаяла скрыня, у якую Яніна складвала канверты з грашыма, а Алесік прымаў букеты кветак.

Віншаванні няспынна працягваліся. “Паважаны спадар Кастусь, родны дзядзька жаніха! Адгукніся ды з’явіся!” – запрасіў мужчыну тамада, трымаючы ў руках спіс гасцей. Паказаўся з натоўпу дзядзька Кастусь: “Я тута!” Ён нёс у руках нейкую невялікую скрыню, плотна зачыненую, і асцярожна паставіў яе перад Алесем. “Не сумуйце, дзеткі, вось вам талісман! Ад шчырага сэрца дарую яго вам!” – вымавіў дзядзька. Потым падышла маладая яшчэ жанчына ў вельмі моднай сукенцы, спераду кароткай, вышэй за калені, а ззаду – з доўгім хвастом, аж да долу. Гэта была цётачка Яніны Эльжбета, якая прыехала з Варшавы. Яна высыпала на стол жменю шакаладных медалікаў і сказала: “Дарую вам шмат медзі, каб дзеці вашыя былі здаровыя, як мядзведзі!”





Працэдура віншавання працягвалася яшчэ нейкі час і, нарэшце, скончылася. Госці размясціліся па сваіх месцах, адмечаных паперкамі з надрукаванымі імёнамі і прозвішчамі. Гучала сучасная і класічная музыка ўперамешку. Жаніхова радня размясцілася за адным сталом, за другім – нявесціна, а на супрацьлеглым баку – моладзь, амаль два факультэты, на якіх навучаліся Алесік з Янінкай. Пачаліся ўзнёслыя тосты, пасля кожнага з якіх госці прыкладваліся да разнастайных страў. Вось – цэлая макітра з ікрой, а каля яе – стопка блінцоў. А вось – нафаршыраваны шчупак, рыба некалькіх сартоў, грыбочкі марынаваныя, мяса, розныя капчонасці… Кожны госць накладваў на сваю талерку гэтую разнастайную смакату.

Нечакана штосьці бразнула пад стол. Кум Міхась, які сядзеў насупраць цётак Ганны і Вольгі, абраніў відэльца. Кум хуценька нырнуў пад стол, каб падняць яго. У гэты момант цётка Ганна заеньчыла: “О-ёй! Хто схапіў мяне за нагу?!” Кум Міхась імгненна вынырнуў з-пад стала, а ягоная жонка Мальвіна кінула на яго калючы позірк. “Дурань! У рэстаранах не падымаюць з долу прылады. Цемра ты несусветная! Навошта ты схапіў куму Ганну за нагу?” “Я думаў, што гэта ножка ад стула”. “Я табе дома пакажу ножку!” – прыгразіла Мальвіна. Але акрамя Ганны з Вольгай ніхто не звярнуў асобай увагі на гэтую дробязь, бо ўсе з захапленнем слухалі ўзнёслыя прамовы да маладых, ледзь паспяваючы куляць чаркі.

Пасля шэрагу віншавальных тостаў, пачаставаўшы свае страўнікі ўсялякай снеддзю, госці перайшлі да актыўнай часткі вяселля. Пачаліся танцы. Рытмічная сучасная музыка прызыўна заманьвала нават самых лянівых. Усе выстраіліся ў вялізны круг, і кожны дрыгаў нагамі і круціў рукамі ва ўсю моц. Потым зайгралі вальс. Спачатку, як лябёдкі, праплылі жаніх з нявестай, потым – іх бацькі. Гэта было паказальнае выступленне галоўных асоб. Пасля моладзь паказвала свой клас: пад гукі “Леткі-Енкі” яны выстраіліся ў шарэнгу і, ухапіўшы за бокі адзін аднаго, пачалі падскокваць праз кожныя два па, выкідваючы ўбок то левую, то правую нагу і дрыгаючы ёй у паветры: “Гоп… гоп… гопца-дрыца… гоп, гоп!”

Андрэй Іванавіч, мэр горада і бацька Янінкі, моўчкі любаваўся моладдзю, седзячы за сталом. Але нешта цягала яго за калашыну штаноў і казытала за шчыкалатку. Ён нахіліўся і схапіў шчанё. Гэта

ж падарунак дзядькі Кастуся! Ён выпаўз са скрыні нейкім чынам. Танцы працягваліся.

Час набліжаўся да апоўначы, калі пачаўся заключны этап святкавання. Трэба адзначыць, што ў апошнія гады ўзніклі новыя традыцыі ў святкаванні шлюбаў. Нявеста паза спіной кідае букет дзяўчатам, і якая зловіць яго, то хутка пойдзе замуж. А жаніх здымае з нагі нявесты падвязку і хавае яе. Хто з хлопцаў знойдзе гэтую падвязку, той у хуткім часе ажэніцца.

І вось на цэнтр залы запрасілі дзяўчат, якіх выстраілі ў доўгі рад. У некалькіх кроках ад іх стаяла нявеста, трымаючы букет кветак над галавой. Шасцідзесяцігадовая цётачка Ганна нечакана прапанавала сваёй сястры, сямідзесяцігадовай цётачцы Вользе: “Ідзі букет лавіць і ты!” “Не, лепш ты ідзі, ты ж маладзейшая на дзесяць гадзікаў,” – адказала Вольга. Але цёткі гэтак жартавалі, а букет злавіла лепшая сяброўка нявесты. Потым пачалася барацьба за падвязку. Рыцары ордэна падвязкі выстраіліся ў шарэнгу. Кум Міхась не вытрымаў і таксама рвануў да рыцараў, пакінуўшы здзіўленую жонку. “Э-э, не-е! Паважаны спадар, вяртайцеся назад. Гэтая працэдура толькі для нежанатых,” – прамовіў вядучы. Падвязку нявесты, схаваную ў адной з Алесевых кішэняў, знайшоў яго лепшы сябар з дзяцінства Міколка.

Запрошаныя госці зноў расселіся за сталамі, каб выпіць і закусіць “на пасашок”, бо быў ужо позні час. Але гляньце, людзі! На стале разгульваў пеўнік з чырвоным грабеньчыкам і прыгожым рознакаляровым хвастом. Бабулін падаруначак. Ён не вытрымаў зняволення, седзячы ў кошыку. Сталі яго лавіць, але ён узляцеў да самай столі і пачаў кукарэкаць. Відаць, пераблытаў вечар з ранкам. Нарэшце, пеўніка ўсё ж злавілі.

Апоўначы вясельны банкет нарэшце скончыўся. Госці раз’язджаліся і разыходзіліся, хто куды. “Як табе, цётка Вольга, спадабаўся банкет?” – спытала сястру цётка Ганна. “Крута!” – адказала Вольга. Абедзьве сястры былі ў цудоўным настроі.





**ПАВЕТРАНЫ ПІРАТ**

Самалёт рэйса “Масква-Лондан” павольна прызямліўся ў аэрапорце “Хітроў”. Праз некаторы час па трапе спусціўся часовы паверана па міжнародным сувязям спадар Ярмолаў і ягоны прэс-сакратар Арсеній. Потым разам з сустракаючымі іх асобамі яны селі ў длінны чорны лімузін і накіраваліся ў рэзідэнцыю амбасады. Дзеля выканання службовай місіі ім было адведзена два дні, што цалкам дастаткова для вырашэння патрэбных ім спраў.

Пасля чатырохгадзіннага пералёту і змены часавага поясу госці з Расіі досыць стаміліся, і пагэтаму выкананне службовай працэдуры было прызначана на раніцу наступнага дня, а пакуль амбасадарскі корпус у складзе ужо ўпамянутых вышэй асобаў накіраваўся на загарадную вілу для адпачынку і адаптацыі да новых кліматычных умоваў.

Падсілкаваўшыся, спадар Ярмолаў накіраваўся на прагулку па алеях парку, што прылягаў да вілы. Раптам ён пачуў каціныя воплі, якія даносіліся з густой кроны развесістага дрэва. На дастаткова тонкай галінцы раскачваўся кот. Ён шалёна прасіў ратунку. Ярмолаў паклікаў свайго сакратара Арсенія, і агульнымі намаганнямі ім удалося зняць няўдачлівага “дэсантніка”. Ім аказаўся малады шыкоўны кот сіямскай пароды. Гэта быў сапраўдны пародзісты прыгажун: кароткая, але вельмі густая і шаўкавістая шорстка крэмавай афарбоўкі прыемна ласкала скуру рук, на мордачцы мелася цёмна-карычневая маска, і такога ж колеру былі ніжнія часткі длінных і стройных лап, а таксама вушы і хвост. Ярка-блакітныя вочы ката прыязна глядзелі на “ратавальнікаў”. Арсеній адпусціў ката на пешаходную дарожку, а той важна вільнуў хвастом і накіраваўся ў бок вілы.

Наступнай раніцай спадар Ярмолаў і ягоны сакратар Арсеній паехалі на дзелавую сустрэчу з прадстаўнікамі Вялікабрытаніі. Пасля перамоваў у гонар гасцей з Расіі быў дадзены абед на той жа загараднай віле. Становішча было ўжо неафіцыйнае, і Ярмолаў у сяброўскай размове выказаў сваё поўнае задавальненне аказанаму прыёму, а таксама ўпамянуў выпадак у парку, які адбыўся з ім падчас прагулкі. Жадаючы канчаткова замацаваць сяброўскую сувязь

паміж бакамі, англічане прапанавалі спадару Ярмолаву ў падарунак стрэчанага ім учора ката па мянушцы Кісінджэр. Ласкава яго клікалі Джэры.

І вось візіт расіян падыйшоў да свайго заканчэння. Спадар Ярмолаў уручыў Арсенію ката, які быў пасаджаны ў спецыяльны кантэйнер, выглядаўшы, як ажурны кош, які да таго ж меў наверсе накрыўку і ручку. Расіяне накіраваліся ў аэрапорт. Паколькі ў Кісінджэра меліся неабходныя для пералёту дакументы: персанальны пашпарт і ветэрынарная даведка аб стане здароўя, – то праблем ніякіх не прадбачылася. Спадар Ярмолаў і Арсеній занялі свае месцы ў бізнес-класе, а Кісінджэра змясцілі ў грузавы адсек. “Ч-ч-ч-орт! Куды гэта я патрапіў і што са мной робяць гэтыя незнаёмыя гуманоіды? Пасадзілі ў нейкую клетку, бы злачынцу, але ж я нічога не натварыў. Дзе ж мае мамаша Манон і сястрычка Марго?” – раздумваў Джэры, пакуль працягвалася пасадка ў самалёт.

У гэты ж час кацінае сямейства на віле выявіла адсутнасць Джэры. Спачатку коткі Манон і Марго насцярожыліся, а потым пачалі праяўляць неспакой. Яны мяўкалі, прыгалі і бегалі ва ўсю моц па парку. Хвалі эфіру здалёк даносілі іх патрабаванне: “Свабоду Джэры, свабоду!”

Паміж тым, пасадка пасажыраў у самалёт скончылася, трап прыбралі, а экіпаж пачаў запускаць рухавікі. Дастаткова моцна адчувалася іх вібрацыя. Джэры авалодала нястрымнае пачуццё пратэсту, прага свабоды. Ён зубамі і кіпцюрамі ўпіўся ў ажурныя пруты сваёй карзіны, і пасля прыкладзеных ім максімальных намаганняў накрыўка коша раптоўна адчынілася. Джэры з усёй моцы паляцеў з грузавога адсеку ў накірунку да салона бізнес-класу прама на вачах у здзіўленых пасажыраў, потым ён даляцеў і да кабіны пілотаў, а затым маланкава знікнуў з поля зроку. Сцюардэсы замітусіліся, занепакоены штурман выйшаў з кабіны, а потым адна са сцюардэс аб’явіла, што ўсім пасажырам трэба прышпіліцца рамянямі бяспекі і заставацца на сваіх месцах. Сцюардэсы пачалі шукаць “паветранага пірата”. Выскачыць з самалёта кот не мог, паколькі ўсе люкі былі задраеныя. У час палёту ён мог натварыць усё, што заўгодна, стварыць аварыйную сітуацыю. Пагэтаму сцюардэсы пачалі даследваць кожны куток агромністага лайнера.





А Джэры тым часам трывала зашыўся пад адным з крэслаў, якое да таго ж было накрыта чахлом. Кот наглуха прытаіўся, выграшыўшы пры гэтым пра сябе: “Фіг вам усім! Я не здамся!” Аднак кацiная прырода хутка дала пра сябе знаць, і зусім нечакана для навакольных з боку аднаго з крэсел пачаў данасіцца рэзкі пах. Не, гэта быў зусім не пах парфумы “Шанэль № 5”, а нешта зусім іншае. Некаторыя спадары, што знаходзіліся паблізу ад гэтага месца, пазатыкалі свае насы. Абмацаўшы злашчаснае крэсла, сцюардэсы выцягнулі з-пад яго ні жывога, ні мёртвага ад хвалявання Джэры. Цяпер прыйшлося ўжо падшукваць для яго іншую, больш надзейную “упакоўку”. Ёй зрабіўся звычайны халшчовы мех, у які і запіхнулі Джэры, потым моцна завязалі гэты мех і гэтую “кладзь” уручылі ўладальніку – спадару Ярмолаву, а ён – свайму сакратару Арсенію з наказам, каб той усю дарогу не выпускаў мех з катом з рук.

Пасля прыбыцця ў аэрапорт “Шэрамецццева-2” Джэры адразу адаслалі на падмаскоўную дачу, а каб ён не збег, яму адвялі асобны пакой і трымалі там пад замком. На прагулкі ката перыядычна выводзіла нейкая немаладая ўжо дама, прычым – на павадку, як сабаку. А навокал не было ніводнай, нават самай паршывай коткі. “Вось ужо, сапраўды, дзікі Усход… – думаў пра сябе Джэры. – У пагоні за чысцінёй вынішчылі нават котак і сабак. Сядзеў бы я зараз у сваім парку на дрэве, а да мяне імчаліся б мамаша Манон і сястрыца Марго…” Кот шчыра сумаваў: “Тут мяне ніводнага разу не адвялі ў кацiны рэстаран паесці, а міску ставяць проста на падлогу, а не на спецыяльны столік, як дома. Цалкам адсутнічае культура абыходжання з жывёламі”. І Джэры беспаваротна вырашыў вярнуцца дадому, у родныя пенаты, чаго б яму гэта ні каштавала. “Як толькі вярнуся дадому, я арганізую маёй гаспадыні, сучцы гэткай, “вясёлае” жыццё,” – разважаў кот.

Дні ішлі за днямі ў чужой незнаёмай старане. Калі выводзілі Джэры на прагулку, ён прыводзіў пачуцці нюху і дотыку ў дзеянне: адтапырваў доўгія гусарскія вусы, выцягваў вушы, намагаючыся злавіць радыёхвалі, што прыносіў эфір, каб вызначыць накірунак сваіх уцёкаў. Перыядычна сярод пабочнага гулу ён распазнаваў ледзь улоўныя гукі і пахі, падобныя на тыя, што ён улаўліваў, калі быў у сябе дома на віле.

Аднойчы падчас чарговай прагулкі новая гаспадыня абы як зачапіла кацін павадок за куст каля крамы, а сама накіравалася за пакупкамі. “Мой час надыйшоў! Пара!” – і Джэры рвануўся з месца, цягнучы за сабою ледзь не ўвесь куст. Ён імчаў па дварах, падвалах, ляцеў, куды вочы глядзелі, усё наперад і наперад. Рэшткі куста хутка засталіся далёка ззаду. Калі, нарэшце, жыллёвы масіў скончыўся, кот памчаўся ўздоўж аўтастрады, практычна на роўных з рухаючыміся па ёй машынамі. Скокамі і па-пластунску, ночы і дні прабіраўся ён, пакуль не знясілеў. У час кароткага адпачынку Джэры раптам пачуяў пах смажанага мяса, што даносіўся здалёк. Сабраўшы апошнія сілы, ён накіраваўся на гэты пах, забыўшы пра ўсялякую асцярожнасць. Пах зыходзіў з прыдарожнага кафэ – там гатавалі шашлыкі для праязджаючых. Увесь знясілены, брудны, падрапаны, з упалымі бакамі, кот прадстаў перад зацікаўленымі чалавечымі поглядамі. Яго не пачалі лавіць, а прыняліся шчыра частаваць кавалкамі мяса, каб заваяваць яго кацін давер. Тут вырашыў Джэры аднавіць свае сілы для далейшага шляху.

Час ішоў, і кот Джэры не растрачваў яго дарма. Ён залізваў раны на жываце і лапах, добра еў і набіраў вагу. Ставіліся да яго ў кафэ гасцінна, не абмяжоўвалі свабоду. Час ад часу кату снілася родная віла, мамаша Манон і сястрычка Марго, любімае дрэва ў парку і маладая лэдзі Кэтрын, ягоная гаспадыня, ад якой заўсёды так смачна пахла і якая карміла яго цялячымі адбіўнымі.

На шыі ў Джэры захаваўся раскошны ашыйнік, упрыгожаны алмазамі, на атласнай падкладцы, замацаваны на срэбраную засцежку. Гаспадыню кафэ прывабіла гэтае кацінае ўпрыгожанне, і яна вырашыла зняць яго, каб шыя ката адпачыла, да таго ж і скрасці ашыйнік маглі. Унутры ашыйніка нешта прашчупвалася. Гаспадыня распарола падкладку і вынула плотную палоску паперы, на якой быў тэкст на англійскай мове. Яна зразумела, што гэта – англійскі адрас Джэры. Усё указвала на тое, што гэты кот – англічанін. А як ён патрапіў сюды, прадстаяла высветліць.

Быў ужо канец ліпеня. Сязон летняга адпачынку дасягнуў свайго апагею. Машыны і аўтобусы з турыстамі снавалі туды-сюды. Многія спыняліся каля прыдарожнага кафэ, і людзі перакусвалі, адпачывалі, курылі, размаўлялі паміж сабой. Адну маладую пару з замежжа зацікавіў экзатычны кот, які круціўся ў самім кафэ і каля яго. Шорстка ў яго была бруднаватая, але зграбнасць ягоных длінных стройных лапаў і ярка-блакітныя палаючыя вочы выдавалі ў ім благароднае паходжанне, арыстакратычнасць. Толькі вось загадка: як ён сюды патрапіў? Маладыя даведаліся ад гаспадыні кафэ, што кот тут нядаўна і што ён прышоў невядома адкуль. Яна паказала ашыйнік Джэры і адрас, які быў у ім зашыты. Глянуўшы на гэтыя атрыбуты, малады чалавек усклікнуў: “Ну, бывае ж такое! Гэта вельмі няпросты кот! Неабходна даставіць яго на Радзіму!”

Джэры паводзіў сябе годна, калі маладая пара забірала яго з сабой. Ён не вырываўся, не драпаўся, нібыта адчуваў, што вяртаецца дадому. Маладым прыйшлося ужыць розныя хітрыкі, каб сесці з “нелегалам” у самалёт. Потым быў чатырохгадзінны пералёт з аэрапорта “Шэрамецццева-2” у аэрапорт “Хітроў”. Пасля прылёту маладым людзям удалося сазваніцца з былымі гаспадарамі Джэры. За катом прыслалі машыну, і ў хуткім часе Джэры аказаўся на роднай віле. Яго доўга аблізвалі мамаша Манон і сястрычка Марго. Падыйшла маладая лэдзі Кэтрын. “Хэллоў, Джэры! Як жа я цябе люблю, мой коцік!” – сказала яна і ўзяла Джэры на рукі. А кот перадумаў помсціць ёй за здраду, і замест таго, каб яе падрапаць, па-сяброўску лізнуў яе ў шчаку.

У той жа дзень з амбасады Вялікабрытаніі ў Маскве раздаўся званок спадару Ярмолаву. Яму паведамілі, што кот Кісінджэр, ён жа Джэры, вярнуўся на сваю Радзіму.

**_ЕЛЕНА СИНИЦА_**

*Родилась 26 февраля 1965 года, в д. Рудка Новогрудского района Гродненской области. В 1986 году окончила Белорусский государственный институт физической культуры. В настоящее время работает преподавателем в Минском государственном лингвистическом университете. Пишет стихи с детства. Не так давно начала писать на белорусском языке. Среди любимых авторов – Лопе де Вега, Федерико Гарсиа Лорка, Сергей Есенин, Марина Цветаева, Янка Купала, Максим Богданович.*

**ДЫЯЛОГ З МАСТАКОМ**

“У маіх малюнкаў колер розны.
Я яго бяру ў свайго жыцця.
Намалюю кветак водар росны,
Намалюю промні пачуцця.

Хочаш, будзе тут буслоў вяртанне?
Як прыгожа на сваёй зямлі!”
“Лепей намалюй маё жаданне,
Добрыя каб людзі больш жылі”.

***

Расце сасна, пасаджаная мною.
Маленькаю яна калісць была.
Цяпер гляджу з паднятай галавою:
Магутны стан, галінкі ўздоўж ствала.

Зялёны колер у яе вуалі,
А раніцай, калі яшчэ раса,
Блішчаць галінкі кроплямі крышталю –
Стаіць, нібыта казачка-краса.





Зімой яна, як быццам, анямела,
У белай шапцы ціха так стаіць.
Я падыходжу да яе нясмела,
Галінку пачынаю варушыць.

Сасна пакрыху на мяне злуецца,
Глядзіць – нібыта з ёю на нажах.
Адно імгненне – на мяне нясецца
Мільён сняжынак – аж на сэрцы жах.

У рукаве, на шыі снег… Не жарка:
Я, як снягурка белая, стаю.
Расце сасна, пасаджаная, шпарка,
І цягнуцца галінкі ў вышыню.

***

Не завидуйте дару писать.
Не завидуйте он не из лёгких.
Дар писать – это дар отдавать,
И порой, в обстоятельствах жёстких.

Вечный бег от грехов и потерь –
На простор непокорного слова.
По размеру ль рубашка, примерь
И коня не гони вороного.

Не гони, не спеши, не забудь:
По нехоженым тропам словесным
Неподьёмный для слабых ведь путь –
По маршрутам всегда не известным.

Не завидуйте дару писать.
Обойдя все моря и всю сушу,

Участь творечества – вечно искать,
Взяв в награду бродячую душу.

**БЕРАЖЫЦЕ СЯБРОЎ**

Я даўно не бачыла цябе.
Бы прапала, не тэлефаную.
На двары зіма даўно ў журбе,
Разумею, што крыху сумую.

Так, сумую без тваіх вачэй
І сумую без тваёй усмешкі,
Толькі час імчыцца ўсё хутчэй –
Я даўно стамілася ад спешкі,

У бясконцым, вечным коле спраў.
Веру ўсё ж я ў лепшы дзень – наступны…
Нумар набяру, што родным стаў,
Толькі ён – навечна недаступны…

***

Как часто земляне на звёзды взирают.
И просят подарки вновь люди у звёзд.
И что-то как будто их те обещают,
В разливы роскошные падая рос.

Но, вот ведь, привычка у звёзд есть такая:
Подарят, а после отнимут вдвойне.
И тешатся, снова у нас отнимая,
Как будто налог насчитали извне.

Да что ж вы холодные, злые такие?
Как? Счастье дарить, а потом отнимать…





И падали звёзды вновь в росы земные,
Потом будут дело своё повторять.

**У КАЖДОГО АЛЬПЫ СВОИ**

*У каждого свои Альпы…*
*Известное выражение.*

У каждого Альпы свои,
А мне бы – к своим подобраться.
Но где-то вершины в дали,
И так не спешат покоряться.

Но я, отвернувшись от гор,
Так долго бреду по долине.
Но что же так тянется взор
К той, непокорённой вершине?..

***

Подари мне брильянт Новогрудка,
Свитязянкой своей назови.
Если есть у тебя хоть минутка
Отвези к детской первой любви.

У ветров там берёт вдохновенье
Свитязь, волнами о́ берег бьёт,
И берёза стоит на коленях,
Будто ветками воду там пьёт.

И не может никак там напиться
Той воды – от весны до весны.
Я всегда сюда буду стремиться,
Будто в детские, сладкие сны.

Подари мне брилльянт Новогрудка,
Свитязянкой своей назови.
Если есть у тебя хоть минутка,
Отвези к детской первой любви...

***

Про тебя говорят: «Ты талантлив».
Дар волшебный Господь тебе дал.
И по-своему в жизни ты счастлив,
И поэтом известным ты стал.

Только дар просто так не даётся…
Нужно ль сетовать здесь на судьбу,
Всех труднее тебе коль живётся,
И сгибает боль душу в дугу.

И вот тут, среди всей этой боли,
Или выстоишь, или пропал.
Тут вот чуточку силы бы воли,
Только слабости бьют наповал.

И не станет талант в наказанье.
И появятся силы творить.
Будут почести, будет признанье,
Жажда будет огромная жить.

***

В древней Спарте всех немощных, слабых
Просто сбрасывали со скалы.
И талантливых – вон на ухабы…
Ведь нужны лишь бойцы – как ослы.





Пропасть жертвы свои поглащала,
Принимая жестокость людей.
Ну, а Спарта? Она погибала.
Без любви, без добра, без детей,

Только силу и власть почитая,
Только этим живя на земле…
Отойдём от опасного края –
Это путь к той спартанской скале.

***

По весне душе комфортно там,
Где пока холодные рассветы,
Где луга порою по утрам
Лёгкими туманами одеты.

Звёзды ярче, люди подобрей,
Купол неба там, как будто, выше.
И поёт разбойник-соловей,
Аиста гнездо на чьей-то крыше.

Жизнь не остановится пока,
Звёзды, соловьи, туман над лугом.
И любовь-волшебница, легка,
Заправляет этим вечным кругом.

***

Моё счастье бегает по свету,
Не кую давно к нему ключей.
Рядом кузнецов почти что нету.
Те, что есть, – по части мелочей.

Я кую лишь звонкую монету.
Ну, а счастье, что ему теперь?
Так и бегает по белу свету.
Без ключа не открывает дверь.

***

Да, с актёрской своею судьбою
На земле я живу, как в плену.
И всегда за моею спиною
Столько судеб, что я не пойму,

Где та грань меж моей и чужою?
Рядом ты. Это явь или сон?
Обладать тобой, милой такою,
Вряд ли я навсегда обречён.

Я бродяга, актёр. Я мечтаю,
Часто Бога прошу, как могу:
Чтоб герои, которых играю,
Не дарили свою мне судьбу.

***

Ветер, проснувшись, резвится.
Травы в росе ещё спят.
Белых ромашечек лица
Ловят восторженный взгляд,

Будто тихонечко просят:
“Лучше нас нет – погляди…”
Ветер их шёпот уносит –
Горе-печаль позади –





В даль, где склонилась берёза,
Смотрит в озёрную гладь.
Чтобы успеть до мороза
“Гривой” с водой поиграть.

В даль, где над речкой-купалкой
Утром туманы встают,
А водяной и русалки
Их незаметно так пьют.

Скоро ромашковый ветер
С нами простится, любя.
Всем он расскажет на свете,
Белая Русь, про тебя.

***

Подземные реки живут своей жизнью.
Подобно им мысли все наши живут.
Ни радостей рек тех не видно, ни тризны,
А мысли людские глаза выдают.

***

Старались злые люди, как солдаты,
Когда мешали сплетнями любви.
А, может быть, они не виноваты?
И зло у них, как творчество, – в крови?

***

Жизнь – гениальный режиссёр.
Без репетиций пьесы ставит,
А кто в них гений, кто позёр,
Лишь только ветер в поле знает...

## О СВИТЯЗИ

Я твоею чистою водою
Умываю руки и лицо.
Небо шапкой сине-голубою
Шлёт воде приветствие-словцо.

Капли быстро падают с ладони.
В озеро торопится вода.
Жаль, что я такой же молодою
Больше не вернусь уже сюда.

***

Обрастала вся Венера слухами,
Что любовь земная – лишь товар.
Будто кто-то сговорился с духами
И украл любви бесценный дар.

И устроено всё, вроде, правильно:
За рассветом следует закат,
И цветов сияющее зарево
Сменит холод, дождь и снегопад.

Ну, а слухи – Бог с ними, со слухами,
Скучен так у сплетниц календарь.
Торговать возможно лишь чернухами,
А любовь – ведь это Божий дар.

## САДЫ

У крестьянина Семёна
Чудных пятеро детей:
На него похожих “звоном”





Троё сильных сыновей,
Две красавицы девчушки –
На носу вразброс веснушки, –
Да лохматый пес Пырей.
Вот однажды, ранним утром:
“Эй, вставайте сорванцы,
Я привёз – добыты чудом –
Всем на радость – саженцы”.
Сон пропал, он стал вдруг лишним.
Шквал вопросов, будто град:
“У нас будут сливы, вишни,
Будет сладкий виноград?”
Сад семья весь день садила –
Всё учли до мелочей.
Детвора чуть не завыла,
Как лохматый пёс Пырей.
Только дед стоял печальный,
Вдаль смотрел и всё молчал.
Ветер, тёплый и нахальный,
Седину ему трепал.
Лишь за ужином ребятам
Дед поведал грусть свою:
Сад срубил он свой когда-то,
Уничтожил на корню.
Был налог введён поштучный:
Дерево иль куст – плати.
Объяснили б людям лучше,
Денег где на всё найти.
Плакали тогда деревья.
Мокрым был от слёз топор.
Эх, страдалица деревня, –
Много лет прошло с тех пор...
Долгим будет пусть тот путь,
На котором есть сады.
Дети пусть в садах растут,
Словно в тёплый дождь грибы!

## ВАЛЕРЫ СКАКУН

*Нарадзіўся 17 мая 1961 года ў вёсцы Асавы Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Мінскі энергетычны тэхнікум ў 1981 годзе. Працаваў па кантрактах на Поўначы, у Якуціі, у Казахстане на Байкануры, ва Узбекістане. З 2005 года працуе ў Беларусі. Паэт, празаік, бард. Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар кніг: "Мяне вецер шукае" (2000 год: вершы), "Набытак" (2006 год: вершы), "На виражах судьбы" (2009 год: вершы), "Паўночны варыянт" (2012 год: проза). У цяперашні час жыве ў п. Дружны Пухавіцкага раёна.*

***

Надакучыла туга,
Не хапае ўжо цярпення.
Дзе і ў чым знайсці збавенне?
І падказвае сумленне,
Што няможна, а што льга.

Прыпыніўся на мяжы –
Паміж беднасцю, багаццем,
Між бязроднасцю і знаццю...
Што яшчэ магу сказаць я?
Мае мроі – міражы.

Зноў туга крадзе спакой,
Замінае асцярогу.
Я выходжу на дарогу –
Хто ў мяне спытае строга,
Што я выбраў шлях не той?

Дзе я, хто, іду куды,
Мне навошта гэта трэба?
Меў заўжды кавалак хлеба,
Ёсць трывалая зноў глеба...
Ды расшэйгаў я гады.





***

Сыходзіць дзень у небыццё.
Я штось пакінуў за сабой,
У чымсьці быў і сам не свой.
Губляў упэўненасць, спакой,
Хаваў мінулае ў сувой,
Жыцця свайго бярог устой.
Сыходзіць дзень сваёй чаргой,
Звычайны дзень – бруіць жыццё.

***

Наперад углядаешся – туман,
І нельга зразумець паміж радкоў...
Шукаеш існавання сэнс-падман,
А шчасце дзе ад знойдзеных высноў?

Ці не шукаў?
Ды што тады – жыццё?
Ні з чым і адыйдзеш у небыццё,
Нічога не пакінеш за сабой?

Туман на даляглядзе, нібы дым.
А мо, кудысьці збегчы ад сябе?
У рэшце рэшт, мяркуецца аб чым?
Аб тым, што адпаведнае табе.

***

І надыйшоў мой верасень надзеі,
Ён цалкам атуліў мяне сабой.
Спрабую зразумець, дык дзе ж я, дзе я –
Праз адчуванне: восень, я з табой.

Пачатак восені. На лета заканчэнне
Зноў азіраюся – прайшлі былыя дні.
Знаходжу я лагоду, суцяшэнне –
Мігцяць шчэ лета ж у душы агні.

Мой верасень загадкава-таемны
Абшарам невядомасці вядзе.
Зачараваны водарам прыемным,
Іду натхнёна, маючы спадзеў.

***

Па небе воблакі плылі
З краёў тых невядомых.
Нібы па моры караблі,
Ішлі па курсу, да зямлі –
Вярталіся дадому.

***

Сарваўся я ў бездань сусвету,
Лячу, не вядома, куды.
Згубіў з відавоку планету,
Свае дзе лічыў я гады.

У іншым цяпер вымярэнні
Сябе адчуваю чужым.
Знаходзіць у чым суцяшэнне,
Ісці як мне лёсам сваім?

Штось выправіць мне немагчыма,
У бездані будзе што, як?
І не – не знайсці мне прычыны,
Чаму атрымалася так...





***

Ужо час, нібыта, хутчэй
Бяжыць – не ідзе, як калісьці.
І трэба трымацца ямчэй,
Шукаючы новае выйсце.

Здаецца – азарт яшчэ той,
І вабіць дарога наперад.
Ды там, дзе калісьці быў свой,
Чужынцы расставілі нерат.

І без прадчування бяда
Наўмысна стаіць на парозе.
З кім быў, не разлій і вада,
Асобна ідзем па дарозе.

І сцежка вядзе не туды,
Аднойчы чакала дзе мара.
І крыжам на плечах гады
Цяжэюць, бы лёсу ахвяра.

***

Чаму восень, чаму восень
мне тваёй парой не сумна?
І імкнулася так сэрца,
каб хутчэй сустрэць цябе.
Сэрца прагнула сустрэчы,
сэрцу летам так няўтульна.
Туманамі апранецца
восень, нібы ў варажбе.
Кану ў восень я з ахвотай,
прайду ціхімі дварамі,

І сабе я пазайздрошчу
адчуваннем – нібы ў сне.
За сабой кудысь вядзеш ты
мяне, восень, туманамі –
Лета сонечнай спякотай
надакучыла ўжо мне.

Ліст пажоўклы круціць восень,
зямлю сцеле дыванамі,
І даўжэй у зорнай ночы
свеціць месяц мне ў акно.
З летам крочылі мы побач
і не ведалі мо самі,
Што згублю яго між волі,
кім жа стане мне яно?
Я сумую нетаропка
і паволі, ціха крочу –
Пасля лета і спякоты
супакойвае імжа.
Хачу восені даверыць,
заглянуўшы ёй у вочы,
Што хвалюе мае сэрца
і аб чым баліць душа.

***

Перачакаю: ведзьмай завіруха
Нахабна сыпле снегам, ды мне ў твар.
Бянтэжаць смутак, боль, і зводзіць скруха
У невядомы, вусцішны абшар.

Дзеля таго, каб выбрацца на волю,
Прасторы светлай бачыць краявід,
Я там, дзе зноў гуляе вецер полем,
Іду-брыду наўзгад, нібы прывід.





Хаваю сэнс, намеры, існаванне –
Адпавядаю знешнасці я ўмоў.
Праз свае думкі, да сябе вяртанні
Я адчуваю: крылы маю зноў.

***

Не шукай мяне, вецер, ні лесам, ні полем,
І на сцежцы таёжнай мяне не шукай.
Я ў блуканнях па свеце згубіў сваю долю,
І душу мне крамсае ўжо смутак, адчай.
Калі дзе і сустрэнеш мяне на дарозе,
Не захопіць мяне твайго сэнсу парыў.
Я ўцякаў ад цябе, мерз з табой на марозе,
Разам з горнай вяршыні кідаўся ў абрыў.

Не шукай, мяне, вецер, ты стэпам шырокім –
Не, мяне не нагоніш: мяне там няма.
Ты раз'юшаным зверам варушыш аблокі,
Не шукай мяне – тут ты лютуеш дарма.
Не кранаеш ты болей мяне – немагчыма
Нам надалей ісці з табой шляхам адным.
Я набыў сабе волю – не маю прычыны
Захапляцца табой, ды й уплывам тваім.

Не шукай мяне, вецер, ты там, дзе аднойчы
Зразумеў, што патрэбна падтрымка твая.
Што было, то ж ужо не паўторыцца двойчы:
Далей мы – паасобку, мне сцежка – свая.
Я ж удзячны табе за твае перашкоды,
За прыгоды, набытыя разам з табой.
Ты мяне не шукай. Разуменне і згода –
Паміж намі, і кожны застаўся сабой.

***

Між гор, пакрытых снегам, вечна белых,
Не трэба слоў – тут воля і спакой.
І сэнс жыцця настолькі зразумелы,
Што бачыш сам сябе перад сабой.

Палоніць невядомасці вусцішша.
Маўкліва шыецца ў расшэліны спалох.
Знямелае ад холаду суцішша
Вісіць адчаем стромнасці дарог.

Напятае, як цеціва, паветра
Слядоў маіх адбітак скалане.
І ў вечнае спалучанасці нетраў
Аб родным краі думка прамільгне.

***

Да цябе я падыду –
Нерашуча гляну ў вочы...
Ты на шчасце ці бяду
Запытаеш: “Што ты хочаш?..”

Вочы ў вочы паглядзяць –
Таямніцы ўсе прыкмецяць
І дазволяць параўнаць:
Я і ты – адно на свеце.

Я і ты – адно аднаму
Мы глядзім адкрыта ў вочы...
Непатрэбна больш нікому
Гаварыць, чаго мы хочам.





***

Я не ўдалеч глядзеў – не найшло празарэнне.
Я кудысьці ішоў – прамінулі гады.
Я мужнеў і сталеў – набіраўся цярпення.
Ды цяпер зразумеў – уцякло шмат вады.

І не тое, каб страціў надзею і веру –
Я сябе не згубіў на развілках дарог.
Адно стаў асцярожны – не кожнаму веру.
І не кожнаму зычу, сябе каб бярог.

Шэры дождж... Але я парасонам натхнення
Адмяжуюся ад набрынялай нуды.
І пайду напрасткі – праз няўдачы, сумненні.
Праз нягоды і болю, няшчасця брады.

Маё сэрца на сонца трымае кірунак.
Ты – бясконцасць маіх да цябе пуцявін.
Цёплы дождж у дарозе – нябёсаў дарунак.
Цёплы дотык рукі – то любові зачын.

***

А я даўно з табой шукаў сустрэчы,
І вось – сышліся нашыя сцяжыны...
У тваім сэрцы недавер трапеча,
Маё ж – гарыць ад гэтае прычыны.

Яго агонь, пяшчотна-пранікальны,
Разбурыць тоўшчу сценаў недаверу,
І нашае каханне – акт сакральны –
Ускалыхне пачуццяў атмасферу.

**ТУТ**

Тут няма спакою і трывогі –
Як і спрэчак, тлуму, мітусні.
Ні ракі вялікай, ні дарогі.
Бездань тут не мае глыбіні.

Зразумела ўсё тут і вядома:
Мрояў – скарацечнасць, сноў – імжа.
Тут нязведанае добра ўсім знаёма,
А знаёмае ўсё – знішчыла іржа.

Прыпыніць гады тут немагчыма –
Кожны з іх нікуды не ідзе.
З хатулём, напоўненым грашыма,
Тут жывуць на хлебе і вадзе.

***

Бывай... Пакінуўшы мяне,
Не страціш ты нічога.
Не жыць нам у маны ярме –
Каханне судзіць строга.

І не даруе яно нам
Таго, што мы, чужыя,
Дзялілі шчасце папалам,
Імгненні дарагія.

Бывай і не судзі мяне
За тое, што кахаю, –
Не жыць нам у маны ярме...
Цябе ж не асуджаю.





***

Мой дом пусты, у ім няма
Твайго цяпла, тваіх сумненняў.
Улетку ў ім жыве зіма
І бляклы цень маіх памкненняў.
І не магчыма прыпыніць
Бег часу хуткі на хвіліну.
Няма каго мне бараніць.
Жыву – нібы напалавіну.

Кранае ж сэрца не туга
І не абрыдласць адзіноты,
Не відавочнасці смуга,
Не кожнадзённасці турботы –
Кранае сэрца напамін
Мінулых дзён, былых падзей.
Я без цябе цяпер адзін,
Зусім адзін – сярод людзей.

**ТРЫЯЛЕТ**

Сонца ўвечары хаваецца за гаем,
Усміхаецца ружовы небакрай.
Нібы там, за небакраем, дзесьці рай...
Сонца ўвечары хаваецца за гаем.

Можа, на душы з якім адчаем,
Як знарок, ідзе ў далёкі край.
Сонца ўвечары хаваецца за гаем,
Усміхаецца ружовы небакрай.

## ДЖЕММА СЛУЧАК-МАРТИНКЕВИЧ

*Родилась 22 мая 1938 года в г. Петрикове на Гомельщине. Окончила Мозырский педагогический институт. Работала учительницей физики и математики в г. Минске. Вырастила троих сыновей. В настоящее время – на пенсии.*

*Литературным творчеством начала заниматься ещё в молодости. Будучи классным руководителем, писала в стихах сценарии для праздников, вечеров. Писала поздравления для родственников, детей, знакомых, учителей.*

*Печаталась в альманахе «Гоман», в коллективных сборниках “Поэзия 2010”, “Поэзия 2012” (серия альманаха “Гоман”), в коллективном сборнике газеты “Знамя юности” – “Давайте говорить стихами”.*

*В 2012 году выпустила в свет две свои книги стихов: “Математика жизни” и “От ситцевой до золотой”.*

### ЦВЕТЁТ СИРЕНЬ

Цветёт сирень! Роскошные букеты
С достоинством – в садах и вдоль дорог.
Дождём умыты, солнышком согреты,
Чтобы прохожий радоваться мог.

Наполнен воздух нежным ароматом.
В кустах щегол заливисто поёт.
И мысли грустные уносятся куда-то.
Теплеет сердце, ведь сирень цветёт!

Ах, звёздочки! Как гроздья винограда!
Какая же волшебная краса!
Не отвести восторженного взгляда –
На землю их послали небеса.

Но срок цветения такой короткий!
Ценить здесь надо каждый час и день.





Все отложить дела, забыв про сроки,
И – взглядом на цветущую сирень.

Так коротка, как северное лето,
И наша жизнь… Цветущая сирень…
Не замечая в россыпях букета,
Мы лепестки теряем каждый день.

Года – букет. Какой? Решаем сами.
Наполнив смыслом каждый год-цветок,
Ты не забудь: зима не за горами.
Сирень в цвету – подарок и урок.

### НЕ НАДО НА ЖИЗНЬ ОБИЖАТЬСЯ

Не надо на жизнь обижаться,
На солнце, на воздух и звезды —
Не вечно нам здесь оставаться.
И завтра уже будет поздно.

Чем время утраты восполнишь?
Ведь жизнь – не цветочки акаций.
Всегда внеурочно ты помни:
Безвыходных нет ситуаций.

И часто задача Вселенной
Имеет решенье простое:
Меняй свою мысль непременно –
Вот правило то золотое.

А если встречаются сбои –
Не раз и не два, и всё хуже,
Глядишь, объясненье простое:
Вслепую окружностью кружишь.

А круг – не тупик, – повторенье
Привычек, идей и решений.
Но если ошибки – в забвенье,
Режь смело, и без сожалений.

Ведь мы, привыкая к дороге,
Плохого и не замечаем.
Не в силах найти за порогом
Аллею, ведь лужа – родная.

Не надо на жизнь обижаться.
Круг режь – вот и будут дороги.
На них снова станут встречаться
Надежды, любовь и тревоги.

**УЧИСЬ ПРОЩАТЬ**

Большая роскошь – не прощать людей…
Есть ночь и день, объединились в сутки.
Ошибки от судьбы, любви, идей,
Желаний, невезенья, предрассудков.

Жизнь коротка – мгновенье для Земли:
Добро и зло, находки и потери.
Мы, может, в этот мир затем пришли,
Чтоб для любви открыть пошире двери.

Рождается река из ручейков,
Уносит воды в бездну океана.
Сверкает небо сонмом огоньков,
Чтобы добро не ведало обмана.

Не боги мы, не судьи… Но – творцы!
И мысли, и дела наши бессмертны.





Чтобы не жгли на совести рубцы,
«Учись прощать!» – вот заповедь Завета.

**НАДЕТЬ УЛЫБКУ НЕ ЗАБУДЬ**

Куда б ни вышел ты из дома:
В короткий или в длинный путь, –
Кроме ключей и телефона
Надеть улыбку не забудь.

Поверят пусть в твою успешность,
Мол, нет проблем, и всё прекрасно.
Никто из встречных не утешит –
Сочувствие порой опасно.

Беда соседствует с бедою,
Не надо с бедами носиться.
Мысль – как магнит. Она порою
Найти подобное стремится.

Больные есть у всех ведь темы –
Делиться ими не спеши.
Улыбка, блеск в глазах… Проблемы
И “не смогу” – ты придуши.

Ведь мысль становится предметом.
Мир материален. Не сдавайся.
Успех поделится секретом –
Всегда наверх ты поднимайся.

Не напрягай людей словами,
А главное – поменьше ной.
Блефуй улыбкой. Плачь ночами.
Мозгами шевели порой.

Что всё вокруг не так и плохо,
Поверят все – поверишь сам.
Не дай рассыпаться по крохам
Своим надеждам и мечтам!

**ИЩИ ДОРОГУ**

Движенье – жизнь, и не всегда – ногами.
Движение эмоций, целей, мыслей…
Цель управляет судьбами, мирами.
Рождает волю, импульс дарит жизни.

Пуста без цели жизнь. Дорог так много
И, по какой идти, порой не знаешь.
Ведь никуда не попадёшь в итоге,
Когда  идёшь – куда не представляешь.

Зависит жизнь от нашего решенья:
Прожить как крот, иль как орёл в полёте.
Создайте в голове вы намеренье,
И помните: ведь только раз живёте.

Здесь всё для нас: и дождь, и солнце, ветер,
Моря, пустыни, горы и долины.
Подумайте, решите: в этом свете
Что сделает родных и вас счастливым?

Чем выше цель, тем круче и преграды.
В  преодоленье их приходит сила.
Достигнешь цели – получай награды.
Вот только б цель всю жизнь не заслонила.

Не становитесь жертвами желаний!
Не будьте их рабами. Всё проходит.





Любая вещь не стоит целой жизни –
Теряет ценность… Годы-то уходят!

И, если дверь не хочет открываться,
Быть может, не в ту сторону толкаем?
Мы не хотим самим себе сознаться
И ломимся, замков не замечая.

Но так ли нужно то, что там, за  дверью?
Спросить себя, порою, не мешает.
Чем больший выбор планов и резервов,
Тем чаще нас удача посещает.

Вся жизнь – осуществление желаний:
Планируем, стремимся, достигаем.
Но, если цель – морковка, жизнь впустую
Промчится быстро… А потом рыдаем.

Ставь цель большую! И ищи дорогу!
Чтоб жизнь была достойной, интересной!
И результат появится в итоге.
Без цели жизнь, как суп без соли, – пресный.

**НАЕДИНЕ СО ВСЕМИ**

Аналогов не создаёт Природа.
И отпечатки пальцев – подтвержденье.
Два человека спорят “про погоду”,
Отстаивая собственное мненье.

Как часто аргументов мы не слышим.
Сказали слово, тут же вспоминаем

Своё былое, и прошедшим дышим,
Спешим делиться, всех перебивая.

И, позабыв совсем предметность спора,
Рассказываем о себе, любимом.
И крутятся вкруг темы разговоры:
Мол, я один такой, неповторимый.

Но, если ты задумал пообщаться,
Себя в сторонку отодвинь немного.
Подумай, надо было ли встречаться?
Уж лучше к Истине искать дорогу.

Пробейся в мир другого человека!
Он думает о том же, но иначе.
И не было похожих двух от века
И ценностей, подходов и к удаче.

И если вы друг другу интересны,
При каждой встрече есть, чем поделиться,
Пустые разговоры неуместны.
Общенье скоро дружбой обратится.

Нет мнений правых, и нет мнений ложных.
День или ночь? Не начинайте спора.
Нас окружает мир, настолько сложный,
Что истина, как спичка на дне моря.

Чтоб выжить, нужен воздух и вода.
А чтобы жить, вниманье с пониманьем.
Общение – духовная еда,
А одиночество живет страданьем.

Общенье – это экскурс в мир иной,
А что увидим – каждый страхом дышит:
Ума добавит нам, наполнит добротой,
Иль силы заберет, коль нас не слышат?





Общение не может быть пустым.
Всегда есть вывод, только с разным знаком.
Ведь и икру не каждый день едим.
И даже ананас бывает с браком.

Итог зависит в большинстве от нас.
От наших знаний, опыта, уменья.
От нужности беседы, а порой –
От выдержки, здоровья, настроенья.

Общенье – встреча мыслей и умов,
Идей застолье – не нужны салаты.
Из теплых взглядов и из нежных слов
Рождается любовь – общенья плата.

Жизнь без общения, как речка без воды,
Деревья – без плодов, еда – без соли.
Ведь если нет плодов, зачем сады?
Коль нет друзей, зачем тогда и воля?

**ЧЕЛОВЕК РОДИЛСЯ**

Человек родился – и заплакал…
Видно, память сердца подсказала:
Жизнь не солнца луч – горящий факел.
Обгоришь не раз… Слеза упала.

Но уже родился – плакать поздно.
В жизни всё непросто – несомненно.
Будут ливни, засухи и грозы.
Жизнь – движенье. Вот закон Вселенной.

Будут слёзы радости, досады,
И успехи, разочарованья.

Ты не плачь, малыш. Все любят, рады,
Ведь пришёл ты с жизнью на свиданье.

**КРЕЩЕНСКАЯ ВОДА**

Вода – основа жизни на Земле,
Она везде: в камнях и в свежем хлебе,
В деревьях и на праздничном столе,
Вода и в нас, и в синем-синем небе.

На Юге выпал дождь, единства нет.
Бурление воды – Земли вращенье.
Где капли снова встретят свой рассвет,
От зноя и беды дадут спасенье?

В своём круговороте посетить
Вода способна нашу всю Планету
Добро и зло, кружа белу по свету,
Впитать – нам с вами эту воду пить.

Обидишь воду, точно заболеет,
Спасибо скажешь, станет как кристалл!
Пред тайною воды умы немеют,
Не всё в ней человек ещё познал.

Нет мира на истерзанной планете:
Насилия, убийства, войны, жадность.
Страдают старики и плачут дети.
Улыбок мало, злоба, зависть, алчность.

Христос  когда-то в воды Иордана,
Вошёл, забрав грехи у всего мира.
И  освященная вода целебной стала,
Святой и чистой, как снега Памира.





Уже столетия в Крещенский  вечер
Звучат молитвы тысяч прихожан.
В  церквях и храмах зажигают  свечи.
Вбирает просьбы водный  океан.

Вода в Крещенье заберёт страданья,
Святая ведь – в ручьях, озёрах, кранах.
И для неё нет вовсе расстоянья –
От космоса течёт до Иордана.

И  ждут народы вечера святого –
Очиститься, святой  воды  напиться.
Чтобы чужого превратить в родного,
Чтоб к жизни справедливой приобщиться.

Вода  Крещенская! Вода святая!
Дай  веру, силы и грехи нам смой!
В снежинки превратиться, замерзая...
От капельки – очистишься  душой...

**ВАДЗІМ УРУБЛЕЎСКІ**

*Нарадзіўся 30 кастрычніка 1986 года ў Мінску. Нашчадак шляхецкага роду Урублеўскіх з усходняй Літвы. Мінчук у пятым пакаленні, праваслаўны хрысціянін. У 2004 годзе скончыў сярэднюю школу № 167, у 2009 годзе – гістарычны факультэт БДУ па спецыяльнасці "гісторыка-архівазнаўства", у 2012 годзе – аспірантуру БДУ па спецыяльнасці "гістарыяграфія, крыніцазнаўства, метады гістарычнага даследавання". Супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі з 2008 года, аўтар трох дзясяткаў навуковых артыкулаў і рэцэнзій, прысвечаных праблематыцы гісторыі штодзённасці, гісторыі дзяржаўных устаноў, гістарычнага крыніцазнаўства, генеалогіі, анамастыкі Беларусі. Заснавальнік і намеснік старшыні гуртка даследчыкаў генеалогіі "Радавод", які дзейнічае пры гістарычным факультэце БДУ з 10 сакавіка 2009 года. З дзевятнадцаці год піша вершы і прозу. Асобны блок вершаў змешчаны ў сетцы "Інтэрнэт" пад псеўданімам "Vadzimir Grugan". Першая публікацыя паэтычных твораў у друкаваным выданні адбылася ў газеце гістарычнага факультэта БДУ "Nika" ў верасні 2011 года.*

**БЯЗМЕЖНАЕ**

Аднойчы пад ранак глядзелі з табой
За ветрам у шыбе, арэляй люляннем.
І я запытаўся: "У чым ёсць любоў?"
А ты адказала працяглым маўчаннем.

Радзіма мая, што ў сутоннях вякоў,
Наўкола блакітам нябёсаў глядзіцца.
Я б расцалаваў відарысы краёў,
Дзе суджана мне было ўсё ж нарадзіцца!

Няўжо ёсць мяжа між палёў і бароў,
З айчынай чужыну што тут падзяляе?"





Вачыма сказала: "Радзіма – любоў!
Глядзі: а любоў – яна межаў не мае!"

А сонца тым часам зірнула да нас,
Зноў пераказаўшы пяшчоце пасланне.
І мы зразумець мелі гэты наказ,
Я зноў запытаў: "Што такое каханне?

Ці гэта палёт двух імклівых буслоў
Да тых рубяжоў, дзе нас вечнасць чакае?"
Ты сэрцам сказала: "Каханне – любоў!
Запомні: любоў – яна межаў не мае!"

Ды скруха трымае мне сэрца ў журбе,
Калі так яму неабходна змагацца!
Хто нас апякуе – мяне і цябе?
Нам час надыйшоў ува ўсім разабрацца!

Дзе шэпат Гасподні няведамых слоў,
Што лёс вырашае ад краю да краю?
Душой ты сказала: "Гасподзь ёсць любоў!
Любоў жа – увогуле межаў не мае!"

Аднойчы пад вечар глядзелі з табой,
Як вецер за шыбай арэлі люляе.
І ты прашаптала: "Жыццё ёсць любоў!
Глядзі: а любоў – яна межаў не мае!"

**СОН**

І аддзяляе цемра ад паўзмроку,
І ад чакання аддаляе крок,
Насуперак паказвае дарогу,
І цягне непрыкметна за парог –

